# НАША НІВА

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

Газэта заснаваная ў 1906. Аднаўленая ў 1991 №13 (134) 5 ЛІПЕНЯ 1999г.


## Вінцук Вячорка: ХАРЫЗМАТЫЧНАЯ МАДЭЛЬ — НЕ ІДЭАЛЬНАЯ

Сойм БНФ у выніку драматычнага галасаваньня 19 галасамі супраць 16 абраў кіраўніком аргкамітэту па падрыхтоўцы свайго зьезду Вінцука Вячорку, намесьніка старшыні БНФ, прыхільніка абнаўленьня гэтай арганізацыі. У 1995 годзе Вячорка, Хадыка і Івашкевіч ужо прапаноўвалі зьмену стратэгіі, але тады засталіся ў меншасьці. Якімі ўяўляе Вячорка будучыя Фронт і Беларусь? *Інтэрвію — на старонцы 3.*

### Зь Беларусі

**З 1 ліпеня, паводле прэзыдэнцкага дэкрэту,** на межах Беларусі пачалі зьбіраць страхоўку з вадзіцеляў-неграмадзянаў РБ і з юрыдычных асобаў-нерэзыдэнтаў. І з-за таго на памежных пераходах ужо сёньня чэргі пабольшалі, а нэрвы агаліліся. Бяруць па 5 экю за ўезд да 15 сутак і траха за 50 — на год. Працуюць страхоўшчыкі няспрытна, як, зрэшты і мытнікі, і памежнікі. Дзіва што жалюцца службоўцы на малыя заробкі. Да прыкладу, на літоўскай мяжы адну машыну правяраюць два чалавекі, а на беларускай — ажно шэсьць, і працуюць утрая марудней, з абедам.

**Салют 3 ліпеня быў у Берасьці й Мар'інай Горцы.** У Менску салюту не было — жалоба пасьля падзеяў на мэтро «Няміга». Мар'іну Горку горадам-героем яшчэ не абвесьцілі, проста сьвяткавалі 75-я ўгодкі Пухавіцкага раёну. Дарэчы, у 1996 годзе, калі Лукашэнка рэфэрэндум зьбіраў, ягоныя праціўнікі сядзяваліся ўзьняць менавіта Мар'інагорскі спэцназ. Ну, у Бога дзён многа.

**Лукашэнка выступіў 2 ліпеня і сказаў,** што Беларусь ліквідуе «дзікі крэн на Ўсход» і перагледзіць сваю замежную палітыку. Камэнтатары кажуць, што гэтак ён палохае і шантажуе Расею, дабіваецца саступак.



*Прэзыдэнт апошнім часам схуднеў*

**У Віцебску аб'яўлена пра росшук Юр'я Мароза,** мясцовага актывіста. А той Мароз ужо даўно быў прытулак у Чэхіі знайшоў.

**2 ліпеня ля будынку КГБ загарэўся «Рафік».** Гэта было за 50 хвілін да пачатку паседжаньня парлямэнцкага сходу і за 30 хвілін да таго, як на той сход меў ехаць Лукашэнка. Побач праяжджала машына-палівалка і стала гасіць агонь. Спалахнула ў такім месцы, што ўсе думаюць — дывэрсія.



Фота IREX-Promedia

*Праежджыя кіроўцы гасяць агонь.*

### Тэма нумару

# ТРЫ МІЛЬЁНЫ ЗА БОЯЗЬ NATO

***Антызаходніцкія настроі і комплекс дзяржаўнай непаўнавартасьці ў РБ***




Фота IREX-Promedia

Днямі давялося прачытаць у прэсе пра вынікі статыстычнага апытаньня ў Беларусі і Расеі. Паводле гэтых зьвестак абсалютная большасьць беларусаў — за аб'яднаньне дзьвюх краін, і галоўная прычына такога імкненьня — боязь NATO. Пра натаўскія бамбёжкі сёньня і сапраўды зусім сур'ёзна разважаюць паспалітыя беларускія людзі — што ў горадзе, што ў вёсцы. Адпаведна боязь Захаду змушае іх туліцца да расейскага пляча, шукаць абароны ў савецкіх традыцыях, давяраццa развагам кіраўніцтва РБ пра патрэбу супрацьстаяць ЗША. Што ж гэта за страх такі народны, адкуль ён бярэцца і на чым трымаецца?

Найпершы і найбольш просты адказ — дзяржаўная прапаганда, або як цяпер кажуць, замбіраваньне насельніцтва. Хоць нельга сьцьвярджаць, што сёньня яна такая ж актыўная і карыстаецца такім самым даверам, як у часы СССР. Тым ня менш. Дастаткова прааналізаваць тыя антыпольскія настроі, якія традыцыйна для БССР, а яшчэ раней — для Северо-Западного края сёньня прадукуюцца і распальваюцца рэжымам першага прэзыдэнта РБ.

Традыцыі такой прапаганды бяруць пачатак не ў Беларусі, а ў сярэднявечнай Масковіі, якая цягам усёй гісторыі ваявала з Польшчай. Беларусь жа, наадварот, найчасьцей шукала паратунку ад Масквы ў саюзах з Варшавай, пра што сьведчаць Крэўская і Люблінская уніі, аб'яднаньне ў адзіную дзяржаву Рэч Паспалітую. Тагачасная Беларусь у складзе Вялікага Княства Літоўскага была, калі зьмясьціць часы, цалкам рэальным прэтэндэнтам на ўступленьне ў NATO і эўрапейскія структуры. Сёньня ўсё наадварот.

Сытуацыя радыкальна зьмянілася ў мінулым стагодзьдзі, калі цалкам зьмянілася кіраўніцтва краіны. Замест свае́й спалянізаванай шляхты вялікія і малыя беларускія лёсы сталі вырашаць прывезеныя з Расеі чыноўнікі. Яны цалкам падзялялі модную тады нянавісьць да «палячышак».

*Працяг на старонцы 6.*

### Камэнтар тыдня

# Чарна-Горыя, Бела-Русь



Галоўная тэма мінулага тыдня ў Беларусі — ліхаманкавая інтэграцыйная актыўнасьць рэжыму Лукашэнкі. Тут і апытаньні грамадзкай думкі, дзе амаль усе — за далучэньне да Расеі, і заявы Ярмошынай пра гатовасьць да рэфэрэндуму «хоць заўтра», і паездкі тудысюды высокага чынавенства, і праекты саюзных дамоваў, і парлямэнцкія асамблеі... Усяго, як той казаў, не пералічыць. Да 20 ліпеня, калі сканчаецца тэрмін легітымнасьці Лукашэнкі, трэба за любы кошт «увайсьці ў Расею» ў нейкім новалегітымным выглядзе. Адсюль такая палітычная гарачка ў такія сьпякотныя дні. Першы прэзыдэнт РБ ужо не вытрымлівае і пачынае палохаць расейскіх парлямэнтароў, што калі й надалей будуць марудзіць, ён павернецца да Захаду. Пятнічны выступ Лукашэнкі сьведчыць ня толькі пра тое, што ў ППРБ здалі нэрвы, але й пра спробы падлесьціць Захаду, каб той зьмякчыў сваю думку пра нелегітымнасьць рэжыму пасьля 20-га. Аднак, у кожным разе, усё гэта гучыць, як дрэнна прыхаваная агонія. Бо Лукашэнка калі не разумее, дык адчувае, што ягонай уладай распараджаецца зусім ня ён. І ўсё, што ён агучвае, прадумана і прамоўлена ў Крамлі.

Расейскія журналісты апошнім часам актыўна ўводзяць у свой палітычны лексыкон новае клішэ: «варыянт Мілошавіча». Пад ім разумеецца наступнае: расейскі палітычны бамонд падазрае свайго прэзыдэнта Ельцына ды ягоную сям'ю ў спробе ўзурпаваць «працэс інтэграцыі» Расеі й Беларусі. У якасьці аналяга прыводзіцца ўзор Саюзнае Югаславіі, а менавіта злучэньня ў 1994 годзе Чарнагорыі й Сэрбіі ў адзіную дзяржаву. Акурат у той час сканчаўся тэрмін легітымных паўнамоцтваў Мілошаваіча як прэзыдэнта Сэрбіі. І дзеля таго, каб утрымаць уладу яшчэ, на няпэўны й вялікі тэрмін, ён падбухторыў тагачаснае кіраўніцтва Чарнагорыі на «брацкі саюз»... У выніку Мілошавіч ня толькі працягнуў свае ўладныя паўнамоцтвы, на вышэйшай пасадзе, але і ўнікнуў кары за генацыд у Босьніі.

А што атрымала Чарнагорыя, да якое расейская журналістыка прыклеіла ярлык — «празаходняя»?..

*Працяг на старонцы 2.*

## Эдвард Тарлецкі: ПАЎДЗІКАЕ ГРАМАДЗТВА НЯ МОЖА БЫЦЬ ТАЛЕРАНТНЫМ



28 чэрвеня пятнаццаць сяброў Беларускай Лігі свабоды сэксуальных меньшасьцяў «Лямбда» пікетавалі Міністэрства аховы здароўя. Гутарку са старшынём рады «Лямбды» і галоўным рэдактарам часопісу «Forum lambda» Эдвардам Тарлецкім чытайце на старонцы 4.

Васіль Быкаў

# АПАЛЯГЕТЫКА «НАГАНА»

***Памфлет***



У гэтай краіне біць любілі здаўна, заўжды каго-небудзь білі. Найперш, вядома, калі заваёўвалі чужыя землі ці баранілі-ся ад чужынцаў-ворагаў. Калі ж тыя прыціхалі, тады білі сваіх. (Бі свайго, каб чужы баяўся!) Білі сьмердаў, баяр, стральцоў, раскольнікаў, прыгонных, князёў і дваранаў. Ахвотна білі таксама цароў ды імпэратараў, якіх душылі падушкамі, ірвалі бомбамі, стралялі з маўзэраў і наганаў. Як усіх гэтых перастралялі, узяліся за афіцэраў, генэралаў ды адміралаў. Калі ж і тыя разам з памешчыкамі ды капіталістамі былі спрэс перабітыя, надышла чарга іншых. Барацьба пад той час набыла такі імпэт, што не магла спыніцца. Паколькі клясавых антаганістых не засталося, былі створаны часовыя, кшталтам нэпманаў, якіх панішчылі пасьпяхова і бяз рэшты. З гэтымі, дарэчы, усё было зразумела і натуральна. Горш сталася з наступнымі, якіх павучонаму назвалі кулакамі.

*Працяг на старонцы 7.*

## Лісты ў рэдакцыю

*З купюр у 1 000 і 5 000 рублёў можна зрабіць улётку, бо на гэтых купюрах захаваўся наш герб «Пагоня». Вакол вершніка абвесьці контур герба (у форме шчыта), каб малюнак на купюры недвухсэнсоўна асацыяваўся з гербам. Над абведзеным контурам можна напісаць адпаведную, але ненавязьлівую ўстанову: «Заўжды Твой», але нельга пісаць непрыхаваныя, нахабныя палітычныя лёзунгі — гэтым можна не замацаваць прызвычаенасьць, але толькі раздражніць і адштурхнуць людзей. Такія рысункі варта рабіць на ўсіх купюрах — калі ёсьць калі.*

**Віталь Станішэўскі**

## Польскае пытаньне

*Старшыня СПБ Гавін цудоўна ўсьведамляў: далучыўся ён да «Хартыі-97», і падтрымка яго ных ініцыятываў апазыцыяй будзе забясьпечаная. Цяперака шлях прапагандзе «польскасьці» сярод беларусаў на старонках апазыцыйнае прэсы адкрыты. Гэтак і выйшла. Гэткае актывізацыі дзеячоў з «польскае нацыянальнае меншасьці» Беларусь яшчэ не назірала. Палякі сапраўды абралі зручны час для сваіх заяваў. Нямоглая апазыцыя, якая вычарпала ці ня ўсе рэсурсы, з радасьцяй ухапілася за новы доказ «дыктатурнасьці» рэжыму . Як бы, праўда, Беларусі гэта ня выйшла бокам. І вось чаму.*

*Перадусім зьвернем увагу на месца палякаў у нашай гісторыі. Пачнем з пачатку: адкуль узяліся ў Беларусі палякі? Нацыянальная гістарыяграфія тлумачыць гэта адназначна. Яны ніколі не былі на нашых абшарах карэннымі жыхарамі. Рэч у тым, што статуты й законы Вялікага Княства Літоўскага забаранялі ўсім іншаземцам (і палякам у тым ліку) займаць пасады й мець зямлю ў ВКЛ. Зразумела, што папросту міграваць у Беларусь заходнія дзяржаўныя суседзі права ня мелі. Палякамі рабіліся каталікі «праз польскую веру». Колькі славутых беларускіх шляхецкіх родаў былі спольшчаныя! А колькі сялянаў прыпадабняліся да сваіх гаспадароў у паводзінах і веры!*

*Перапіс 1897 г. паказаў увесь плён касьцёльнае пальшчызны: за палякаў сябе ўжо ўважалі 12 (!) адсоткаў ад беларускага насельніцтва. Гэты пры тым, што ніякіх масавых перасяленьняў з Польшчы не было.*

*Наступны этап — нашае стагодзьдзе, 20-30-я гады: перасьлед беларускасьці ды культываваньне польскага духу. Гэта не магло не пакінуць глыбокага надрэзу на целе беларускай памяці. Як падагуліў Вацлаў Іваноўскі, «помнім і польскую хлусьню аб свабодзе, аб сужыцьці вольных з вольнымі, роўных з роўнымі, а побач з тым — бязьлітасное пляжаньне беларусаў і беларушчыны» («Спольшчаныя й змаскоўшчаныя», 1941).*

*А сёньняшнюю «польскую этнічную меншасьць» лічаць у колькасьці ажно ў 413 тысячаў! З тых тысячаў амаль усе — беларусы, спольшчаныя касьцёлам з ксяндзамі.*

*Што ж мы бачым у спратах Касьцёлу цяпер? Пэўна, смоўж пойдзе хутчэй, чым у касьцёле ідзе беларусізацыя. Яшчэ ва Ўсходняй Беларусі — сяк-так, але ў вёсках Заходняй Беларусі ды дзе польскія ксяндзы сядзяць... У Горадні, агмені польскім, адзін з касьцёлаў перайшоў цалкам на расейскую мову. Што хоч, абы не беларускае маўленьне.*

*Калі ксяндзы едуць з Польшчы, можа стварыцца ўражаньне, што беларускіх сьвятароў у прыродзе не існуе. На гэткае меркаваньне й разьлічвалі. Але гэта няпраўда. Толькі іх збольшага адпраўляюць працаваць служыць у Расею (пасьля расейцы скардзяцца на «польска-беларускі нацыяналізм» ксяндзоў).*

**Алесь Міксовіч**

## ЗАХІНЕМ ПІКЕТАМ МОВУ

*На мінулым тыдні Таварыства Беларускае Мовы імя Францішка Скарыны зладзіла свой чарговы пікет – толькі якая карысьць з гэткіх пікетаў?*

*Мова наша жыве, не пакінутая, сям-там: у вёсцы, сярод малапісьменных людзей, не навучаных праз гэта расейскай, і ў гарадзкіх нацыянальна-сьведамых асяродках. Але ні тым, ні тым дзейнасьць ТБМ нічога не дае.*

*Калі няма магчымасьці вучыць людзей гаварыць па-беларуску, дык трэба стварыць узор гэткага "размаўляньня". Найперш - колькі ўжо пра гэта ішлося! - самыя актывісты незалежніцкага руху мусяць размаўляць па-беларуску ня толькі "па працы", а паўсюль. А зайдзіце ў сядзібу ТБМ, з вамі павітаюцца: "Здраствуйце!" – і запытаюцца: "Вы к каму?"*

*Да пікетаў прыходзяць людзі – з надзеяй, што нешта зьменіцца, што нешта можна зьмяніць. А ім падсоўваюць газэту "Наша слова": справаздачы, заявы і скаргі, і ўсё – дубовай мовай. Ну, не чыталі ў ТБМ клясыка: "Кінь вечны плач свой аб старонцы!"*

**В.М.**

# ЧАРНА-ГОРЫЯ, БЕЛА-РУСЬ

*Працяг са старонкі 1.*

Фактычную акупацыю сэрбскімі войскамі, міжнародную блякаду, якая балюча ўдарыла па гэтым некалі турыстычным раі, тысячы ўцекачоў з Босьніі й Косава, а ў дадатак натаўскія бамбёжкі, нягледзячы на ўсе антымілошаўскія эскапады чарнагорскага кіраўніцтва. І цяпер ужо позна рваць на сабе валасы, падлічваць страты, плакаць пра сваю незалежнасьць.

Сёньня любыя спробы Крамля фарсаваць падзеі з інкарпарацыяй Беларусі разглядаюцца ў палітычных ды журналісцкіх колах Расеі ня йнакш, як у кантэксьце «варыянта Мілошавіча» — як задума «працягнуць» палітычнае жыцьцё Ельцына пасьля 2000 году ў якасьці галавы беларуска-расейскага кентаўра. І тады ўжо мала хто згадае такія эпізоды ельцынскай біяграфіі, як Белавеская пушча ці ганебная параза ў крывавай чачэнскай вайне.

У часе апошніх супольных вайсковых вучэньняў «Захад 99», паводле афіцыйнае інфармацыі, адпрацоўваліся спосабы адбіваньня паветранае атакі NATO на выпадак нападу альянсу на тэрыторыю Беларусі. Але іншыя крыніцы, напрыклад, літоўскія, сьцьвярджаюць, што гэта была рэпэтыцыя нападу на «адну зь неназваных» краінаў Балтыі. Пасьля гэтага становіцца зразумелым, чаму літоўцы «не заўважаюць» беларускіх праблемаў. Яны наогул не зважаюць на Беларусь, ведаючы, хто там сапраўдны гаспадар, які ў сапраўднасьці «ня там».

Аднак, інтарэсы Ельцына паўсюдна, у тым ліку ў Беларусі, могуць быць тарпэдаваныя знутры, расейскімі прэтэндэнтамі на маскоўскі пасад. Зь іншага боку, у цара Барыса сёньня бракуе сродкаў на рашучую інкарпарацыю Беларусі. Вось ён і прытармажвае аб'яднаньне, як казырную карту на будучыя прэзыдэнцкія выбары ў Расеі. І таму, насуперак бравадзе Менску, расейскі віцэ-прэм'ер разводзіў рукамі й казаў журналістам, што «размовы пра стварэньне ўнітарнае дзяржавы не вядзецца», роўна ж як няма й размовы пра «абмежаваньне сувэрэнітэту дзьвюх краінаў і аб'ёму паўнамоцтваў іх прэзідэнтаў».

Калі ж Ельцын усё ж знойдзе грошы на інтэграцыйныя цацкі для свайго плаксівага менскага ўтрыманца, дык толькі дзеля таго, каб утрымацца самому, на прыкладзе Мілошавіча. Чарнагорыя і Бела-русь падзеляць лёс. Замест мірнага й заможнага йснаваньня нас будуць чакаць толькі ганьба й чужая вайна. Бо чым скончыўся «варыянт Мілошавіча» ў Югаславіі ўжо вядома... Далучэньне ж да беларуска-расейскага саюзу яшчэ й Югаславіі дасьць магчымасьць схавацца за крамлёўскімі мурамі й ваенным злачынцам, якія давялі Балканы да крывавай драмы. Няма сумневу, што іхны «варыянт» прыйдзецца даспадобы і тым, хто прайграў прыднястроўскую, карабахскую ды чачэнскую кампаніі. Маштабы рэваншызму ў межах гэткага траістага зьвязу будуць неабмежаваныя, пра што і засьведчылі вучэньні «Захад 99»...

**Гары Куманецкі**

# Сямён Шарэцкі: СІЛАЮ МОЖА ВЫРАШАЦЬ ТОЛЬКІ НАРОД

***Мы папрасілі старшыню Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня Сямёна Шарэцкага пракамэнтаваць апошнія інтэграцыйныя ініцыятывы.***

Патугі да інтэграцыі — гэта шавіністычная палітыка, якую Расея зь сярэднявечча праводзіць да Беларусі. Што тычыцца беларускага боку, дык Лукашэнка з самага пачатку свайго кіраваньня імкнуўся стварыць новую імпэрыю. Таму ён ніколі ня будзе займацца Беларусяй, каб тут палепшыць справы. Ніводны дыктатар ніколі не намагаўся стварыць прыймальнае грамадзтва ў сваёй краіне, каб эканоміка забясьпечвала патрэбы людзей.



На жаль, людзі ня бачаць небясьпекі. Ня бачаць, што будзе зь беларусамі, калі Беларусь зьнікне як дзяржава. Эканамічна інтэграцыя таксама нічога не палепшыць. Той крызыс, які ў Расеі сёньня, ня зьнікне ад таго, што Беларусь далучыцца да Расеі. Наадварот, ён толькі паглыбіцца, і зьявяцца новыя праблемы нацыянальнага характару. Я пытаюся: няўжо Расеі мала аднаго Каўказу? Няўжо кіраўнікі Расейскай Фэдэрацыі ня ведаюць, што адбывалася пасьля далучэньня Беларусі да Расейскай імпэрыі? Гісторыя беларускага народа — гэта гісторыя пэрыядычных войнаў за незалежнасьць. Калі беларусы будуць далучаныя да Расейскай імпэрыі, яны ж ніколі з гэтым ня зьміряцца і заўсёды будуць весьці барацьбу за незалежнасьць. Але я думаю, што розум возьме верх. Людзі павінны бачыць, што ў сьвеце ідзе зусім іншая тэндэнцыя — дэмакратызацыі грамадзтва. І пры гэтым ня толькі кожны чалавек патрабуе большых правоў, але й кожны народ хоча быць самастойным ды мець сваю дзяржаву. Толькі дзяржаўнасьць дазваляе народу рэалізаваць усе свае нацыянальныя ймкненьні і выкарыстаць свае правы. Таму, калі хто хоча далучыць Беларусь да Расеі, ён выступае супраць законаў развіцьця сусьветнай гісторыі.

Што тычыцца рэальных крокаў, якія можна рабіць у сёньняшняй сытуацыі, дык тут усе будзе залежаць ад беларускага народа ды міжнароднай супольнасьці. Сілаю можа вырашаць пытаньні толькі народ.

# ШТО ТРЭБА РАБІЦЬ, КАБ СУПРАЦЬСТАЯЦЬ ІНТЭГРАЦЫІ?

**СТАНІСЛАЎ ШУШКЕВІЧ, былы сьпікер парлямэнту:** Нічога ні апазыцыі, ні народу рабіць ня трэба, бо ўжо прайшло столькі часу, а ніякага аб'яднаньня як не было, так і ня будзе: дурняў няма. Расея і сама хутка разваліцца, гэта ж відавочна.

Нам трэба працягваць займацца сваімі справамі, бо я пагрозы ніякай ня бачу. Усё гэта толькі адныя дэклярацыі. І поўнае глупства.

**ВАСІЛЬ СЁМУХА, перакладчык:** Народу і апазыцыі трэба супраціўляцца да апошняга, але я каб я ведаў, як гэта рабіць... Зубамі грызьціся!

**РЫГОР БАРАДУЛІН, паэт:** Народ павінен усьвядоміць, што яго хочуць загнаць у чарговае рабства, у новы савецкі прыгон. Сьмешна, крыху дыхнуўшы вольнага паветра, ісьці пад прыгнёт ізноў. Апазыцыя павінна даводзіць насельніцтву ўвесь жах аб'яднаньня. Але як гэта давесьці — самая галоўная праблема. Людзей так зазамбіравалі, так ім затлумілі мазгі праз тэлебачаньне, урадавую прэсу, што ім цяжка зразумець небясьпечнасьць сытуацыі.

# Эдвард Тарлецкі: ПАЎДЗІКАЕ ГРАМАДЗТВА НЯ МОЖА БЫЦЬ ТАЛЕРАНТНЫМ

*«Адзін наш вядомы дзяяч пайшоў прасіць палітычнага прытулку, убачыў чарнаскурага афіцэра эміграцыйнай службы і не пайшоў на інтэрвію, сказаўшы: «Ён чорны, як ён можа разумець беларускія праблемы?»*

**«НН»: Якія мэты меў Ваш апошні пікет?**

Эдвард Тарлецкі: Мы спрабавалі прыцягнуць увагу грамадзтва да праблемаў людзей, якія ймкнуцца зьмяніць свой пол. Сёньня ў Беларусі дазвол на гэта дае адмысловая камісія, у якой ёсьць прадстаўнікі міністэрстваў юстыцыі, унутраных справаў, адукацыі ды абароны. Мы лічым, што такое пытаньне мусіць вырашаць выключна мэдыцынскі кансыліюм. Да таго ж, зьмяняць пол дазволена толькі з 21 году, і мы выступаем за адмену абмежаваньняў па ўзросьце. Гэта трэба вызначаць у кожным канкрэтным выпадку.

**«НН»: Колькі людзей у Беларусі сёньня жадаюць зьмяніць пол?**

Э.Т.: Зарэгістравана 73 чалавекі. Дарэчы, у Беларусі такія апэрацыі праводзяць даўно, гадоў 20 ужо, у 4-ай клініцы і ў Бараўлянах. Кажуць, фалясы ў нас у 4-ай клініцы робяць адны зь лепшых у Эўропе. Былы міністар аховы здароўя БССР Саўчанка гэтым займаецца. Ён быў калісьці за гэта зьняты з пасады.

**«НН»: Вы не баіцёся, што, прыцягваючы ўвагу да праблемаў транссэксуалаў, Вы можаце, наадварот, павялічыць нэгатыўныя настроі ў грамадзтве?**

Э.Т.: Транссэксуалы — гэта таксама грамадзяне Беларусі. Калі беларусы хочуць пабудаваць грамадзтва, дзе чалавек мае правы, дзе ён можа разьлічваць на дапамогу ня толькі дзяржавы, але, у першую чаргу, супольнасьці, беларусам трэба вучыцца. Трэба быць падрыхтаванымі да таго, што людзі, якія хочуць зьмяніць пол, маюць права гэта зрабіць. Адбылася трагедыя, людзей падушылі ў пераходзе — хавалі ўсе, грошы зьбіралі ўсе. Таксама трэба разумець, што калі чалавек адвяргае свой пол — у яго трагедыя, чалавеку трэба дапамагчы.

**«НН»: Існуе тэза аб традыцыйнай талерантнасьці беларусаў. Як яна суадносіцца з Вашым досьведам?**

Э.Т.: Якая можа быць талерантнасьць у паўдзікага грамадзтва, якое ня можа наладзіць ані палітычны, ані сацыяльны дыялёг? Проста ўзялі аўтаматычна стэрэатып зь сярэднявечча, што вось жылі разам праваслаўныя, каталікі, ды «пабудавалі» байку. На самой справе трэба праводзіць вялікую асьветніцкую работу, вучыць людзей, што ёсьць іншыя думкі, ёсьць іншыя людзі, якіх трэба паважаць, да якіх трэба прыслухоўвацца. Якая можа быць талерантнасьць пасьля такога вялікага пэрыяду савецкага будаўніцтва, калі іншадумства не паважалася? Беларускае грамадзтва вельмі неталерантнае, гамафобнае й расісцкае. Гэта больш за усё бачна на пабытовым узроўні. Палітыкі, грамадзкія дзеячы могуць сьведчыць публічна сваю талерантнасьць. Але вось прыйшоў адзін вядомы дзяяч беларускі прасіць палітычнага прытулку, убачыў афіцэра эміграцыйнай службы з чорнай скурай і не пайшоў на інтэрвію, сказаўшы: «Ён чорны, як ён можа разумець беларускія праблемы?» І гэта адзін са сьветачаў беларускага Адраджэньня, як бы прадстаўнік прагрэсу.

**«НН»: Вы асабіста сутыкаліся з гамафобіяй сярод дзеячоў беларускай апазыцыі?**

Э.Т.: Яны разумеюць, што калі мне гэта сказаць адкрыта, я гэтага проста так не пакіну. Тых, каму за 30, перарабіць вельмі складана. Большасьць талерантных — гэта моладзь. Мы часопіс выдаем, да нас прыходзяць лісты ад людзей пасьля 30 гадоў, і ў асноўным выказваюць незадавальненьне, што па-беларуску друкуем.

**«НН»: Выходзіць, прадстаўнікі сэксуальных меншасьцяў — таксама ня ўзор талерантнасьці?**

Э.Т.: Яны такія ж людзі, як усе астатнія. Геі, лесьбіянкі хварэюць на тыя самыя хваробы, як усе. Можна сказаць, што яны крышку больш талерантныя, але гэта тыя, хто ўсьведамляе сябе геямі ці лесьбіянкамі. Але ж большасьць гэтых людзей сёньня хаваецца. Гомасэксуалісты, якія знаходзяцца сёньня на розных высокіх пасадах, яны яшчэ й хварэюць на гамафобію. Яны адкрыта не прызнаюцца, хто яны такія. І нам замінаюць, баючыся, што з-за таго, што ўзьнікаюць нейкія выданьні, іх выкрыюць. ■



Геі не баяцца пратэставаць.

## Дзе варта быць



Ігар Забара іграе ў «Камэдыі» чорта

### КАМЭДЫЯ

**8 ліпеня Малы тэатар пад кіраўніцтвам Ігара Забары закрывае сэзон спэктаклем «Камэдыя» паводле п'есы Каэтана Марашэўскага. П'есе больш за дзьвесьце гадоў, пастаноўка Рудава й Андросіка вытрымала больш за пяцьсот аншлягавых паказаў, некаторыя гледачы не прапускаюць ніводнага спэктаклю. Сакрэт посьпеху просты — на «Камэдыі» ВЕЛЬМІ-ВЕЛЬМІ СЬМЕШНА! У чацьвер а 19-й гадзіне ў Доме Афіцэраў можна будзе падняць сабе настрой. Цана білетаў: 200—600 тыс. рублёў.** ■

### КРАМА

**9 ліпеня ў клюбе «Рэактар»** аматараў «Старога добрага рок-н-ролу», а менавіта так называецца праграма вечара, парадуе гурт «Крама». Спадкаемцы легендарнай «Бонды» апошнім часам не сказаць каб вельмі часта песьцілі сваіх прыхільнікаў сольнымі канцэртамі. Таму гэты, што адбудзецца на адной з самых прэстыжных пляцовак гораду (Веры Харужай, 29), варта наведаць абавязкова. А раптам нас сярод старога й добрага чакае нешта новенькае. Пачатак а 23-й гадзіне. Цана білету: 1200 тыс. БРБ.

З.Б.




# МЭСІІ І ПАЛІТЫКІ

Вадзім КАРЦАЎ

Ці даводзілася вам гутарыць пра палітыку з прадстаўніком якой-небудь краіны з устойлівай дэмакратыяй?

Калі гутарка заходзіць пра падставовыя прынцыпы, дык аказваецца, што тыя ідэі, якімі звычна апэруем мы: незалежнасьць, свабодны рынак, культурнае й духовае адраджэньне — гэтыя комплекс базавых каштоўнасьцяў, які можна назваць макраідэалёгіяй, абсалютна зразумелы й прымальны для ўсіх іншаземцаў, правых, левых і нават якіх-небудзь тамтэйшых палітычных экзотаў. Гэта канстанты, якіх палітыкі за мяжою ў прынцыпе не кранаюць.

Адрозьненьні ж у іхных партыйных плятформах, якія прыводзяць да сапраўдных інфармацыйных і ня толькі інфармацыйных баталіяў, палягаюць на полі мікраідэалёгіі, гэта значыць сукупнасьці другасных, быццам бы, праблемаў і пытаньняў, канкрэтных адказаў на якія ў нас усур'ёз дасюль і не шукалі.

Якое войска лепей: наёмнае ці прызыўное? Як ставіцца да атамнай энэргетыкі? Ці дапушчальнае сьмяротнае пакараньне за цяжкія злачынствы? Хто павінен фінансаваць вышэйшую адукацыю, мэдыцыну? Які мусіць быць памер дапамогі па беспрацоўі? Якую зброю можна дазволіць для насельніцтва? Што ў дзяржаве варта засакрэчваць, а што – не? Што ёсьць эротыкай, а што — порна? Ці трэба і як, калі трэба, абмяжоўваць амэрыканскі культурны уплыў? Правы жанчыны: дзе мяжа роўнасьці? Гомасэксуалісты: 5% выбаршчыкаў ці купка вычварэнцаў?..



Сотні тэмаў, распрацоўка якіх і прыносіць тыя самыя палітычныя дывідэнды.

Я даводзіў сваім замежным суразмоўцам пра асабліваcьці сучаснай беларускай дзяржаўнасьці, пра тое, што калі нам занятца добраўпарадкаваньнем газонаў ці, напрыклад, барацьбой з рэклямаю цыгарэтаў, дык праз нясмелы час мы будзем займацца газонамі й цыгарэтамі на гэтай жа зямлі, але ўжо ў іншай дзяржаве. Тлумачыў тэорыю, паводле якой нашыя прыхільнікі — спрэс прасьветленыя людзі з высокімі памкненьнямі, а электарат дыктатара — «кілбасьнікі», якіх болей і якіх нішто маштабам вышэй за лецішча не цікавіць.

Я ня здолеў патлумачыць толькі аднаго: чаму мы тады называем сябе палітыкамі, а не мэсіямі, што кажуць толькі ісьціну?

Гэта нясьціпла, але слушна з пункту гледжаньня лёгікі: чалавек, які кажа на публіку несумненую праўду й больш нічога, варты званца голасам ісьціны.

Палітыка ж, то бок авалоданьне прыхільнасьцю масаў дзеля атрыманьня ўлады над імі, ёсьць справаю крыху складанейшай. Палітыкі ня кажуць нечага адразу. Яны гучна ставяць пытаньні, ціха скануюць рэакцыю й зноўку ж гучна даюць адказы, папулярызуючы сябе ў аўдыторыі. І гэтак дзень пры дні: марудная, але ўдзячная праца.

Беларускі абываталь, што быў пастаўлены перад дылемаю кілбасы й Бога, за апошнія гады пабіўся на тры лягеры: 10% — «нацыяналісты», 30 — «саўкі», хата астатніх недзе бліжэй да лесу.

Спрошчаны погляд, але ў ім — адлюстраваньне рэальнага і ўстойлівага падзелу ў нашым грамадзтве. І не прадпрымаць нічога для зьмяненьня абазначаных прапорцыяў, гэта значыць пакінуць падзеленую нацыю ў тупіку язды па коле, рызыкоўнай язды па коле гісторыі...

Як жа быць? Няўжо дзеля зьмяненьня стану рэчаў трэба хлусіць, абяцаць немагчымае, разыгрываць танныя скандальныя спэктаклі?

Не! Папулізм — гэта антонім мэсіянства, але ня нашая зброя. БНФ па-ангельску — гэта Belarusian Popular Front. Нашая зброя — гэта папулярызацыя.

Масавую прыхільнасьць трэба атрымоўваць не праз дэмагагічныя прыёмы, не праз агалошваньне голае праўды, а праз фармуляваньне папулярных прынцыпаў, зразумелых большасьці, і абвяшчэньне гэтых прынцыпаў сваімі, партыйнымі.

Павыцягваць наш люд з тупікоў і кінуць яго ў вір здаровае палітыкі можна толькі думаючы пра тое, пра што думае маленькі чалавек.

Узгадайце прынцэсу Даяну. Яна рабіла сваю папулярнасьць на другасных, на першы погляд, праблемах. Але, да прыкладу, пад час дыскусіяў пра забарону супрацьпяхотных мінаў — праблемы, якую ў свой час Даяна ўзьняла й акрэсьліла, зьмянілася фракцыйная парлямэнцкая раскладка ў некалькіх краінах.

Ці праблема выратаваньня сініх кітоў. Ахова жывёлаў — наагул некранутая ў Беларусі дзялянка, тымчасам, як дзесь у акіянічных краінах існуюць ужо партыі аховы плянктону.

Калі нядаўна баскі захапілі закладнікам аднаго гішпанца, па ўдалай мэдыйнай кампаніі ўся краіна зьядналася вакол неактуальнага, папраўдзе, для сярэдняга грамадзяніна старажытнае эўрапейскае краіны пытаньня: дзе мяжа між тэрарызмам і вызвольным змаганьнем?

Скандал з Монікай Левінскі, а шырэй — пытаньне роўнасьці перад законам, падзяліў сытую Амэрыку далёка не па лініі «рэспубліканцы-дэмакраты».

Ды што далёка хадзіць! Рытарычнае (ці не?) пытаньне мальнасьці ўва ўчынках палітыкаў выдзяліла, урэшце, левую апазыцыю ў Народным Фронце.

Вось такія «другасныя» рэчы.

Адпрацаваныя праблемы, на якія ўжо атрыманыя й агучаныя адказы — гэта той слаўны палітычны багаж, што ўтварае непаўторнае аблічча партыі ці палітыка, гэта код, па якім абіраюць партнэраў, па якім галасуюць «за».

Пачаць можна было б з праблемы легалізацыі лёгкіх наркотыкаў, алькагалізму, абортаў: з тэхналёгіяў барацьбы зь ліхам.

Фармуляваньне мікраідэалёгіі — гэта канец нашае вечнае апазыцыйнасьці, шанец зноўку адабраць у рэжыма палітычную ініцыятыву, стаць стваральнікамі прыгожага й карыснага. ■

## З Балканаў

### Брытанцы забілі двух УЧКоўцаў

Двух альбанцаў забілі ў Прысьціне брытанскія жаўнеры 3 ліпеня. Альбанцы з машыны сталі страляць па доме (у горадзе стаяла страляніна, альбанцы сьвяткавалі Дзень незалежнасьці), дзе жывe пад аховай брытанцаў 55 сэрбаў, а натаўцы — па іх. Аднаго забілі напавал, а яшчэ трох буянаў паранілі і самі ж на сваёй машыне адвезьлі ў больніцу, але аднаго зь іх ужо не пасьпелі адратаваць. Брытанцаў перад тым зьвінавачвалі, што яны надта папускаюць альбанцам, а французаў і расейцаў — што сэрбам. Параненыя аказаліся сябрамі УЧК і, як сказаў прэс-сакратар УЧК, у час вайны былі яны «геройскімі хлопцамі». Альбанцы кажуць, што па іх стралялі без папярэджаньня.



### NATO магло даць расейцам жару

1 ліпеня на выступе ў Вашынгтоне вярхоўны камандзір NATO ў Эўропе генэрал Ўэсьлі Кларк заявіў, што NATO мела дастаткова магчымасьцяў, каб не дапусьціць захопу 200-мі расейскімі парашутыстамі аэрапорту Прысьціны. Аднак, паводле рашэньня высокапастаўленых асобаў, чыіх імёнаў генэрал ня стаў называць, было прынятае рашэньне не загароджваць расейцам дарогі. Сам генэрал быў, відавочна, незадаволены гэтым рашэньнем. Бо, на ягоную думку, расейцы ня кінулі намераў захапіць сабе ў Косаве асобны сэктар.

Расейцам дагэтуль не даваяраюць. Масква хацела пасlаць у Косава 3600 дэсантнікаў (кожны вайсковы там аж рвецца ў Косава, бо і сьвету пабачыць, і заробіць там за месяц, як на радзіме — за год), але NATO сказала ім «пачакайце»: Вугоршчына, Румынія і Баўгарыя адмовіліся прапусьціць расейскія самалёты. Афіцыйная падстава — яшчэ невядомы будучы статус расейскіх сіл. А без дазволу расейскія ваякі лётаюць толькі над Грузіяй, над іншымі баяцца — могуць зьбіць.

### Банды тэрарызуюць Прысьціну

«Банды запраўляюць на вуліцах Прысьціны, і гэта робіцца сапраўднай праблемай для брытанскіх салдатаў-міратворцаў», — паведамляе «The Daily Telegraph». Газэта апісвае маладзёнаў як «шалёных люмпэнаў з Косава і Альбаніі, якія нажываюцца на хаосе». Некаторыя зь іх увіходзяць у добра арганізаваныя банды, іншыя — адзіночкі. Сярод іхных ахвяраў і этнічныя альбанцы, і сэрбы. Роля УЧК, Арміі Вызваленьня Косава, у дачыненьні да бандаў неадназначная. Дадатковую напружанасьць выклікае прыбыцьцё касавараў зь сельскіх рэгіёнаў — іхныя дамы разбураныя, і яны шукаюць сабе кватэры ў Прышціне, выганяючы сэрбаў. У Альбаніі ўжо даўно ўся краіна падзелена між клянамі, а парадак больш-менш трымаецца, бо ў Тыране і портах дыжураць амэрыканскі марпех. Цяпер NATO ня ведае, як даць рады гэтаму бандыцтву ў Косаве.

# "БАЛТЫЙСКІМ ХВАЛЯМ" У ЭФІРЫ ПАКУЛЬ АДМОВІЛІ

У мінулую сераду Камісія радыё і тэлебачаньня Літвы па выніках конкурсу адмовіла ў ліцэнзіі на вяшчаньне для радыё "Балтыйскія хвалі".

Праект дэпутата літоўскага сойма Рымантаса Плейкіса сумесна зь Беларускім Інфармацыйным Цэнтрам прадугледжваў штодзённую трансляцыю на сярэдніх хвалях па-беларуску як уласных праграм, так і рэтрансьляцыю іншых беларускіх перадачаў, якія робяцца за межамі Беларусі і выходзяць на кароткіх хвалях. Агулам "Балтыйскія хвалі" прэтэндавалі на пяць гадзінаў вечаровага этэру. Аднак Камісія радыё і тэлебачаньня, надзеленая паўнамоцтвамі размеркаваньня радыёчастотаў, палічыла праект немэтазгодным.

З кампэтэнтных крыніцаў нам стала вядома, што да такога рашэньня Камісію схіліў "званок" з адміністрацыі прэзыдэнта В.Адамкуса, які, у сваю чаргу, ужо некалькі месяцаў адчувае прэсынг з боку як дыпляматаў А.Лукашэнкі, так і службаў бясьпекі расейска-беларускага саюзу, для якога недапушчэньне "Балтыйскіх хваляў" сталася адной з галоўных задач. У прыватнасьці, як стала вядома ад супрацоўнікаў брытанскага Вэстмінстэрскага фонду, што дэкляраваў фінансавую падтрымку новаму радыё, да іх з мэтай спыніць праект неаднаразова зьвяртаўся пасол Беларусі ў Англіі Ул.Шчасны.



Рымантас Плейкіс

Новае радыё мелася стаць альтэрнатыўным сродкам масавай інфармацыі на сярэдніх хвалях, што і насьцярожвала прэзыдэнта Лукашэнку, пасьля абраньня якога, як вядома, у Беларусі былі закрытыя ўсе незалежныя электронныя сродкі масавай інфармацыі. Адмова ў ліцэнзіі чарговы раз сьведчыць пра залежнасьць Літвы ад палітыкі ўсходняга суседа.

**Інфарматар**

P.S. У мінулую пятніцу Камісія радыё і тэлебачаньня Літвы, якой, відавочна, залежыць на ўласнай незалежнасьці ад дзяржаўных структураў, сабралася зноў, каб "зьмякчыць" сваё ранейшае адмоўнае рашэньне. У выніку быў абвешчаны новы конкурс на тыя самыя частоты, але не на стандартную пяцігадовую ліцэнзію, а на гадавую. Заяўкі прымаюцца да 4 жніўня, а вынікі конкурсу будуць абвешчаныя 18 жніўня. Як паведаміў "НН" Рымантас Плейкіс, "Балтыйскія хвалі" ўжо падрыхтавалі новую заяўку, але прагназаваць вынік ён не бярэцца. "Складваецца ўражаньне, што Камісія толькі зацягвае час, імкнучыся захаваць бачнасьць сваёй незалежнасьці ў краіне, дзе паводле Канстытуцыі ня можа быць дзяржаўнага кантролю над СМІ", – сказаў Р.Плейкіс.

## Весткі зь Літвы



### Гарэлка цячэ, у рот не пападае

8 тонаў канфіскаванай гарэлкі вылілі ў адстойную яму пад Трокамі работнікі спэцыяльнай дзяржаўнай камісіі. Гэтую гарэлку адабралі ў гандляроў за незаконны ўвоз у краіну, незаконны выраб і скончаньне тэрміну для продажу. Усяго зьліквідаваная партыя каштавала 1 мільён літаў ($250 тысяч), бо там былі ня толькі самагон і брага, але грэцкія, францускія, малдаўскія каньякі, шатлянскія віскі, бальзамы, лікёры, дарагая гарэлка ды віно ў прыгожых бутэльках. Журналістаў абурае ня толькі тое, што камісія марнуе вялікія грошы, але й тое, што робіць гэта таемна ад прэсы. Што да грошай, дык стала вядома, што адстойнік пад Трокамі — гэта толькі адно месца зьліву, і што ў гэтым самым месцы аднойчы ўжо вылівалі 10 тонаў алькаголю.

А беларускія вадзіцелі тым часам выліваюць гарэлку пад наглядам літоўскіх мытнікаў проста на мяжы, празь якую больш за бутэльку праваізіць забараняецца. Адну можна дый тое на цэнтральных пераходах. А на малых пераходах лепей не рызыкаваць, бо тут памежнікі нават у бачку для абмыўкі шкла нюхаюць, а калі знойдуць, дык штрафуюць. І тое тычыцца ня толькі гарэлкі, але і ўсялякіх прадуктаў, асабліва малочных.

### Доўгія нажы Гаркуна

Акурат на Дні беларускае эканомікі, што прайшлі ў Вільні, у дзяржаўным літоўскім тэлебачаньні быў запляналаны паказ дакумэнтальнага фільма Віктара Дашука «Ноч доўгіх нажоў» — пра Лукашэнкаву «дэмакратыю». Але ж кіно зьнялі з эфіру, не паказалі. Як паведамілі нам на тэлебачаньні, — каб не псаваць дачыненьні з суседняй краінай, паказ адклалі да часу, калі беларускія мерапрыемствы закончацца. Відавочна, пастараўся пасол РБ Гаркун, які цяпер толькі й абясшкоджвае «антыбеларускія» (а насамрэч, якраз беларускія, а не прамаскоўскія) цэнтры і ініцыятывы.

Ох, і доўгія ж рукі ў таго Гаркуна! Дакладней, доўгія нажы, якімі ён умудрыўся дацягнуцца нават да дырэкцыі праграм Літоўскага тэлебачаньня.

### Фантан на Лукішках

Славутая Лукішская турма ў цэнтры Вільні, дзе ў 30-я гады сядзелі многія беларускія дзеячы (у тым ліку і паэт Максім Танк, які згадвае пра Лукішкі ў сваіх вершах), сёньня перажывае вялікую перабудову. У вокнах камэраў замест кратаў усталёўваюць сучасную сыстэму сыгналізацыі, абсталёўваюць нармальныя прыбіральні, падключаюць кабэльнае тэлебачаньне. Як кажа дырэктар турмы Мікалай Матвееў, большасьць з 265 асуджаных занятыя цяпер падрыхтоўкай да баскетбольнага турніру, а сам ён зьбіраецца па перадавы вопыт у Канаду. Гэтак на Лукішках імкнуцца пераадолець гнятлівы настрой. Цяпер кожнае лета ў двары турмы будзе працаваць фантан.

### На памятным месцы — чарговы знос

Хутка беларускія памяткі ў Вільні давядзецца шукаць ужо ў «другім археалягічным слаі». Пра тое кажа гісторыя славутага будынка на рагу вуліцы Віленскай і праспэкта Гедыміна. Тут пасьля першай сусьветнай вайны да свайго ад'езду ў Закапанэ (лічы, да сьмерці) жыў Іван Луцкевіч, тут была рэдакцыя штодзённай беларускай газэты «Гоман», тут выношваліся пляны стварэньня Беларускай Народнай Рэспублікі, тут зьбіраліся ініцыятары адкрыцьця ў 1919 годзе Віленскай Беларускай Гімназіі. Сюды да сьмяротна хворага Івана Луцкевіча прыходзілі і прыяжджалі беларусы з усяго краю і ўсяго сьвету.

У 1965 годзе на месцы таго памятнага будынка быў пастаўлены рэстаран «Паланга», у якім за незалежнай Літвой разьмясьціўся клюб «Bingo». А сёньня ўжо і тую «Палангу» рыхтуюць пад знос. Замежныя камэрсанты збудуюць тут нешта «камэрцыйнае». А тым часам пачаліся археалягічныя раскопкі. Кажуць, што калі ня знойдуць нічога каштоўнага, дык знос будзе дазволены. Адкапалі ўжо падмуркі таго дому Луцкевіча, але ў Вільні такіх падмуркаў — мора, і ніякай навуковай цікавасьці яны не выклікаюць — ані ў беларусаў, ані ў літоўцаў пагатоў.

**Прыхільнікі творчасьці Марка Шагала, дзякуючы францускай амбасадзе, маюць рэдкую магчымасьць пабачыць цікавыя дакумэнтальныя стужкі францускіх і нашых рэжысэраў, прысьвечаныя мастаку і ягонаму шляху. Паказваць фільмы будуць у Мастацкім музэі (гэта на Леніна, 20) кожны раз а 18.00.**

**7 ліпеня** — «Дарогі Шагала» (60 хвіл.), «Мазаіка ў Чыкага» (20 хвіл.), «Мой пачатак» (па матывах кнігі М.Шагала «Маё жыцьцё») (24 хвіл.).

**8 ліпеня** — «Альхімія Шагала» (50 хвіл.), «Біблейскае Пасланьне Марка Шагала» (29 хвіл.), «Марк Шагал» (30 хвіл.).

**9 ліпеня** — «Мастак з закінутай галавой» (48 хвіл.), «Прысьвячэньне Шагалу», «Колер каханьня» («Дом Шагала») (27 хвіл.).

**З.Б.**

## З усіх старон

### Галадоўка зьвіядыстаў у Грузіі

Зьняволеныя трох грузінскіх турмаў далучыліся да галадоўкі пратэсту, распачатай у мінулым месяцы прыхільнікамі былога прэзыдэнта Гамсахурдзіі, паведамляе агенцтва Caucasus Press. Каля 180 чалавек сабраліся ў радзінным доме Гамсахурдзіі ў Тбілісі, высунулі патрабаваньні адстаўкі прэзыдэнта Шэварднадзэ і вяртаньня да ўлады ураду Гамсахурдзіі і з тае пары галадуюць.

### У Вугоршчыне ахвярам вайны «кінулі» па 125 даляраў

Прэм'ер Вугоршчыны ад партыі маладых дэмакратаў Віктар Орбан прызнаў у парлямэнце, што Пэтэр Торда, прэзыдэнт Фэдэрацыі Вугорскіх Габрэяў і галоўны рабін Ёжэф Швэйцэр маюць рацыю, калі кажуць, што кампэнсацыя ў 30 000 форынтаў ($125), прызначаная ўрадам для выжылых у Галакосьце і іхных сваякоў — «сапраўдны зьдзек». Орбан запэўніў, што рашэньне будзе перагледжана. Орбан таксама назваў «недапушчальным», каб нэанацысцкія групоўкі бесьперашкодна ладзілі шэсьці вакол Будзкага Замку.

### Пэтрэ Лучынскі хоча сабе больш улады

Парлямэнт 2 ліпеня зацьвердзіў рашэньне, каб рэфэрэндумы не праводзіліся часьцей чым раз у два гады. Рашэньне фактычна перабівае намер прэзыдэнта Малдовы Пэтру Лучынскі правесьці ў хуткім часе рэфэрэндум, на які было б вынесенае пытаньне аб пераходзе да прэзыдэнцкай сыстэмы кіраваньня — кансультацыйны рэфэрэндум на гэты конт адбыўся ў траўні 1999 году і даў прэзыдэнту перавагу. 1 ліпеня Лучынскі падпісаў дэкрэт пра стварэньне камісіі, рэкамэндацыі якой па зьмяненьні цяперашняй сыстэмы мусілі б зацьвярджацца дзьвюма трацінамі парлямэнту або праз рэфэрэндум.

Справы ў краіне над Днястром ідуць абы-як. Малдаўскі прэм'ер Іон Стурза, даючы справаздачу парлямэнту аб сваім 100-дзённым кіраваньні, заявіў, што «калі абставіны будуць спрыяльнымі», ВНП у 1999 годзе можа зьнізіцца толькі на 5—7 %. Стурза прадказвае ўзровень інфляцыі ў 25 % і агульны дэфіцыт ВНП у 3 %. (У 1998 годзе ВНП панізіўся на 8,6 % параўнальна з папярэднім годам, а інфляцыя складала 18,3 %). Сярод асноўных дасягненьняў ягонага кабінэту ён назваў ўзнаўленьне зносінаў з МВФ і Сусьветным Банкам. Прэм'ер таксама заўважыў, што Малдова выплаціла дзьве траціны доўгу з 230 мільёнаў даляраў, якія мусяць быць вернутыя сёлета. Малдова — вельмі хітрая краіна, якая і на грошы МВФ жыве, і зь Ельцыным не сварыцца.

# НІНКА ПАМІЖ ЮЗІКАМ

**_Антызаходніцкія настроі і комплекс дзяржаўнай непаўнавартасьці ў РБ_**




Фота IREX-Promedia

*Працяг са старонкі 1.*

За два стагодзьдзі ў сьвядомасьці народа быў глыбока ўкарэнены комплекс дзяржаўнае непаўнавартасьці Беларусі. Беларусь — як бы недакраіна, недадзяржава. Адсюль несур'ёзныя адносіны да беларускай мовы, да гісторыі. Беларуская дзяржава ўспрымаецца як штучная на самым паспалітым народным узроўні. Гэта чыста прапагандысцкі плён, які ня мае ніякага дачыненьня да мэнталітэту або нацыянальнага лёсу. Прычым гэты плён дасягнуў такога ўзроўню, што новыя і новыя пакаленьні начальства ўсіх рангаў дэманструюць паблажлівае стаўленьне да беларускай дзяржаўнасьці ўжо амаль несьвядома, міжволі.

Зусім лягічна будзе параўнаць комплекс дзяржаўнае непаўнавартасьці беларусаў з комплексам сямейнае непаўнавартасьці мацярок-адзіночак. Паспрабуйце ўявіць сабе тую Нінку, якая жыве бяз мужа. Такая жанчына, зрабіўшы свой выбар на Івану з самымі сур'ёзнымі намерамі, ужо ніколі не падпусьціць да сябе Юзіка, бо мысьліць прагматычна. Наадварот, яна будзе ўсяляк адганяць таго Юзіка, або баяцца яго, хай сабе і зусім безпадстаўна. А цяпер уявім, што гэтая кабета — Беларусь. Тады робіцца зразумелым народнае пачуцьцё няпрыязі да NATO (абы немцы зноў не таптал і нашую зямлю) і, наадварот, — любасьці да Расеі, да Івана, якому народ гатовы дараваць і сталінскія рэпрэсіі, і калектывізацыю, і сёньняшняе сваё беднаватае жыцьцё.

Праўда, і гэты выбар — не ад мэнтальнасьці або якогась славянска-генэтычнага адзінства, пра што так шмат кажуць сучасныя кіраўнікі. Рэч у тым, што пры іншых абставінах наша Нінка можа зьмяніць свой выбар. Напрыклад, Іван адвернецца ад яе або зьнікне куды-небудзь, ці памрэ, ня дай Бог. І тады ўжо з усёй рашучасьцю яна павернецца да Юзіка і адвернецца ад Івана, што і пацьвярджае сярэднявечная гісторыя Беларусі. Бо тут наўрад ці можа ісьці гутарка пра глыбокае пачуцьцё. Важней для Нінкі тое, што ейны малы Андрэйка падрастае бяз бацькі.

Яшчэ адзін погляд на антызаходнія настроі — праз культуру быту і праз хамства, адсутнасьць элітарных жаданьняў — жыць чыста, ладна і ўмела. Гэткая пралетарызацыя сьвядомасьці таксама бярэ пачатак у XIX ст., калі быў пераламаны хрыбет заходніцкім беларускім памкненьням і на зьмену прыйшлі расейскія памешчык, чыноўнік і псаломшчык са сваімі ўяўленьнямі пра жыцьцё. Заўважу, што гэта былі далёка ня лепшыя людзі Расеі, а людзі непрыкаяныя, якія многімі тысячамі рынуліся да нас на дармавізну. Бытавая неўладкаванасьць у пары з пралетарскім аскетызмам сталі эталёнам, які пасьля быў узьняты на шчыт бальшавікамі.

Антынатаўскія настроі спрэс перагукаюцца з прызабытым ад часоў першага нашаніўства паняцьцем цемры народнай.

*Народ, беларускі народ*
*Ты цёмны, сьляпы быццам крот.*

Гэта Максім Багдановіч. Але найбольш энэргіі прысьвяціў змаганьню зь цемрай Янка Купала. У тыя часы ўвесь асяродак вакол газэты «Наша Ніва» стаяў на вельмі чыстых і выгодных пазыцыях антыцемры. Па сутнасьці, у іх не было ніякіх іншых матывацыяў, апроч асьветы народа, апроч сьвятла. Ня дзіва, што і нянавісьць да захаду, да перадавых тэхналёгіяў ў тыя часы гучала б дысанансам. Змагаліся зь цемрай. Забягаючы наперад, скажу, што цемра народная нікуды ня дзелася з тых часоў і да сёньня. Вось толькі літаратура пра яе пісаць перастала. Засьціла вочы ілюзія сацыялістычнага прасьвятленьня. Цемра стала быццам бы неактуальнай, быццам бы засталася ў «цёмнай мінуўшчыне». Аднак клясычныя вершы пачатку стагодзьдзя, у тым ліку і пра цемру, гучаць сёньня абсалютна актуальна. У адрозьненьне ад шматлікіх панегірыкаў калгаснаму будаўніцтву.

Новыя часы падштурхоўваюць да гэтае тэмы зноў. «Беларусь, мая старонка, куток цемнаты». Вось жа менавіта з гэтай цемнаты гучаць сёньня словы пра боязь натаўскіх бамбёжак і прыходзяць зьвесткі статыстычных апытаньняў пра саюзы з Расеяй, Кітаем і Югаславіяй. Менавіта з гэтай цемнаты прыйшлі галасы двух Лукашэнкавых рэфэрэндумаў пра нежаданьне ведаць бюджэт краіны і пра замену гістарычнай сымболікі на эклектычныя самаробкі. Менавіта з гэтага цёмнага кута заяўляюць сёньня беларускія бацькі і маткі пра патрэбу аб'яднаньня з Расеяй, адначасова быццам бы і ня хочучы пасылаць сыноў у гарачыя расейскія кропкі, што ніяк ня вяжацца адно з адным. Цемната ёсьць сынонімам недасьведчанасьці, неадукаванасьці і няўменьня аналізаваць падзеі.

Днямі я распавядаў калегу пра сваю паездку ў Мазырскі раён. Калегу-палітыка цікавіла найперш, што людзі кажуць пра Лукашэнку. А што яны кажуць? Яны гатовыя на яго маліцца. Найперш — пэнсіянэры, якім ён рэгулярна плоціць па тры мільёны. Тут, дарэчы, я заўважыў адну цікавую акалічнасьць. Справа не ў грашах, ня ў гэтых трох мільёнах. Найбольш за Лукашэнку настройваюць сваіх вясковых мацярок іхныя дзеці — гарадзкія бамбізы, што пакідалі родныя котлішчы і зводзяць цяпер канцы з канцамі ў гарадох. Лукашэнка сваімі сымбалічнымі трыма мільёнамі як бы ўзяў на сябе іхны сыноўскі комплекс, іхную немагчымасьць або нежаданьне апекавацца старымі. Вось чаму найперш тут усе гатовыя на Лукашэнку маліцца.

— А NATO, — спытаўся ў мяне калега, — што яны пра Захад кажуць.

— Рыхтуюцца, кажу, да бамбёжак. Маўляў, перш Югаславія, а пасьля — мы.

Калега паслухаў уважліва і ўрэшце выгукнуў уласнае адкрыцьцё: «Дык гэта ж — цемра!»

**Сяргей Паўлоўскі**

■

# «ЖЫВАТРАПЕЧАЧАЯ» ТЭМА

Антыпольскасьць, як частка антызаходняй рыторыкі ў роце цяперашняга беларускага рэжыму — толькі працяг рэанімацыі бальшавіцкае спадчыны. Усё пачалося з воклічу Тухачэўскага ў Менску ў 1919-м: «Байцы! На сваіх штыкох мы нясем народам Эўропы свабоду і мір! На Варшаву! На Бэрлін!» Сацыяліст Пілсудзкі гэтае ініцыятывы не ўхваліў, бальшавіцкія войскі былі разьбітыя. Наступіла эпоха ўсебаковае нянавісьці да пальшчызны. Варагаваньне з палякамі стала неад'емнай часткай беларускае савецкае культуры. Нават Янка Купала ў сваім вершы «Летапіснае», да дзесяцігодзьдзя БССР, пісаў:

*А паляку ня сьпіцца,*
*З боем прэцца, як змора;*
*Яму панскую Польшчу*
*Дай «ад мора да мора».*

Антыпольскасьць, памножаная на клясавы міт пра палякаў, якія нібы спрэс «паны», стала адным са стрыжняў беларускае самаідэнтыфікацыі па абодва бакі савецка-польскае мяжы. У гэтым былі салідарныя ўсе беларускія сілы, незалежна ад палітычнае афарбоўкі. Зьдзекліване ўжываньне польскіх словаў у літаратуры стала нормаю. Напрыклад, у макаранічным вершы Якуба Коласа «Панам»:

*Эх, панове, «ніц не бэндзе»:*
*Сапсуе пан справу «вшэндзе»,*
*Бо занадта пан «гаронцы»!*
*І ня ў польскіх інтарэсах*
*Зьдзек такі чыніць «на крэсах»*
*Нечуваны зьдзек над сонцам!*

Верш сканчаецца гэтак:

*Вы ня здольны жыць у згодзе —*
*«Мондры поляк, ды па шкодзе».*

На канец 30-х прыпадае раз-

# ДЫСКАМФОРТ АД ЧЫСЬЦІНІ

Чым часьцей я пераяжджаю нашу паўночна-заходнюю мяжу, тым болей пераконваюся, што «Захад» — гэта паняцьце не геаграфічнае. Беларускі горад Вільня зьмяняе сваё аблічча штодня. Яшчэ ўчора абшарпаная камянічка набывае раптам выгляд цалкам рэспэктабэльнага асабнячка. Некалі звычайны гастраном з мароженым мясам ператварыўся ў чысьцюткі супэрмаркет, заліты сьвятлом і поўны прыгожых тавараў. Вокны старых дамоў патроху апранаюцца ў белыя рамы шклопакетаў... Але вось загадка. Чым чысьцей і прыгажэй становіцца знаёмы горад, тым больш асабіста я адчуваю дыскамфорт. Чаму?

Мне згадваецца Максім Гарэцкі. «Праяжджалі мы пустое мястэчка. На культуру завідасьць паглядзець! І жаль бярэ за сэрца, што Беларусь, у параўнаньні, дзікая-дзікая!» Пісьменьнік пісаў гэта ў аповесьці «На імпэрыялістычнай вайне» пра Прусію, дзе яму давялося ваяваць. Тады яшчэ нашы людзі ня ведалі слова «сацыялізм». Яшчэ далёка было да продразьвёрстак і калгасаў. Яшчэ не прыдумалі тэрмін «жалезная заслона». Хоць яна існавала ўжо тады. Падзяляючы адзіны кантынэнт на дзьве абсалютна непадобныя часткі. У адной стрэхі пад дахоўкаю, у другой — пад саломаю, там — чыстыя хаткі, тут — хлявы, у іх — культура, у нас... Адказ дае бацька галоўнага героя: «Мы так, як тыя сьвіньні, увесь век у балоце жыць будзем... Мы, сынок, не паны і не жыды, каб кожнаму пад нос талерачку падстаўляць... Мы з аднае міскі дастанем, абы даваў бог што даставаць...»

Падобна, што гэтая рэпліка занатаваная з жывога голасу. Бо ў Беларусі яе часта можна пачуць і сёньня.

**Зьміцер Бартосік**

■

# ДЗЬВЕ КАБЕТЫ — ДВА ЛЁСЫ

Чаму беларусы не імкнуцца да саюзу з Захадам, моцным і заможным? Тэза аб двухсотгадовым служэньні ў расейскім войску і славянскім братэрстве прабуксоўвае, бо ёсьць прыклад Украіны...

Я ведаю дзьвюх кабет, якія з розных прычынаў у маладым веку засталіся без мужоў з малымі дзецьмі на руках. Гэтая акалічнасьць зблізіла іх. Доўгі час кабеты жылі разам, дапамагаючы адна адной. Але ўрэшце іхны саюз распаўся. Адна дала аб'яву ў інтэрнэце, і праз пэўны час выйшла замуж за грамадзяніна натаўскай на цяперашні час краіны. Яна піша лісты, часам тэлефануе. Яна кажа, што нарэшце «пачала жыць» — то бок, ня мае бытавых клопатаў.

Другая засталася ў Беларусі, але таксама паўторна выйшла замуж. За ўцекача з адной расейскай гарачай кропкі. Новая сям'я зьехала зь Менску ў невялікую вёску, што ў Гарадоцкім раёне. Яны амаль не зарабляюць грошай, затое заўсёды сытыя і рэдка хварэюць. Муж часам ідзе ў запой, і на пэўны тэрмін жыцьцё маёй знаёмай робіцца невыносным. Але ўрэшце ўсё нармалізуецца. Дру-

# І ІВАНАМ

гул расейска-савецкага шавінізму ў кінэматографе. Дастаткова згадаць кінастужкі «Аляксандар Неўскі» альбо «Мінін і Пажарскі». Немцы, татары, швэды адназначна выглядаюць паўдуркамі. Але найбольш дастаецца ўсё ж палякам. Яны і пярэваратні, і лісьліўцы, і фанфароны. Чаго варты карыкатурны вобраз князя Сапегі (вядома ж, паляк!), які на працягу фільма шматкроць пераапранаецца то ў строй польскі, то ў швэдзкі. Беларускі кінэматограф імкнуўся не адстаць. Першы ж нацыянальны фільм Юрыя Тарыча «Лясная быль», зьняты паводле аповесьці Міхася Чарота «Сьвінапас», быў таксама прысьвечаны змаганьню з палякамі...

У беларускім мастацтве тэмы савецка-польскай вайны ды антыпольскай партызанкі былі эквівалентам тэмаў грамадзянскае вайны ў мастацтве расейскім, а таму ўсебакова ўхваляліся. Напрыклад, адзін толькі сюжэт «Уступленьне Чырвонай Арміі ў Менск у 1920 годзе» скарысталі жывапісцы Зайцаў, Гусеў, Ціхановіч, Манасзон, графікі Гембіцкі, Волкаў, Мінін. Хапала і гэткіх сюжэтаў як «Раззбраеньне белапольскага атраду» альбо «Арджанікідзэ ў засадзе пад Барысавам».

Газэта «Звязда» ў рэцэнзіі на Ўсебеларускую мастацкую выставу 1938 году пісала: «Барацьба з палякамі (!) ёсьць жыватрапечачай тэмаю ў беларускім мастацтве!» Проста гэтак і пісалі — барацьба нават не з панамі, а з палякамі наогул. Тым часам і ў Заходняй Беларусі, найперш у левым друку, карыкатураваньне палякаў было звычайнай справаю. Мастакі Горыд, Маразовіч, Сідаровіч распрацавалі ўстойлівую іканаграфію «палякаў»: у жупанчыках, канфэдэратках, зь бізуном ды шабелькай... Антыпольскасьць была падрыхтоўкаю да 39-га году.

Але чыя праўда ўрэшце перамагла?.. Калі сёньня з вуснаў беларускага рэжыму ды ягоных маскоўскіх памагатых чуваць пра тое, што палякі Гарадзеншчыны рыхтуюцца да тэрарызму, што паўсюль гойсаюць польскія шпіёны, што Касьцёл займаецца прапагандаю, як не згадаць, чым скончыўся 39-ы год і для палякаў і для беларусаў...

**Сяргей Харэўскі**

■






Фота IREX-Promedia

гая кабета таксама шчасьлівая ў сваім сямейным жыцьці.

Памыляюцца тыя, хто лічыць, што беларуская настальгія па «моцнай руцэ» роднасная суму раба па бізуну. Гэта «жаночая туга па мужчынскім плячы». Калі шэсьцьдзесят працэнтаў нашых грамадзянаў галасуюць за саюз з Расеяй, дык толькі таму, што не адчуваюць шанцаў схавацца ў больш прывабнай і моцнай краіне.

Што да выбару між Усходам і Захадам, я прыгадваю трэцяга пэрсанажа гісторыі пра незамужніх кабетаў. Гэта мой сябра, якога кабеты ніколі не забудуць, і якога ўсё жыцьцё будуць узгадваць зь пяшчотаю. Сябра так і ня змог зрабіць выбар між імі дзьвюма. Ён застаўся ў Менску, і зараз заканчвае пісаць кнігу. Сябра верыць, што дзеці ягоных каханак прачытаюць кнігу зь цікавасьцю. Па-беларуску.

**Севярын Квяткоўскі**

■

Васіль БЫКАЎ

# АПАЛЯГЕТЫКА «НАГАНА»

*Працяг са старонкі 1.*



Цяжкасьць палягала ў тым, каго падвесьці пад тое азначэньне. У вялізнай сялянскай краіне заможных сялянаў было, аднак, дужа няшмат. Можна сказаць, што ўсе былі бедныя. Хіба што лапці, якія ў той краіне абувалі замест чаравікаў, у адных былі стаптаныя дарэшты, а ў іншых трохі навейшыя. Мудрыя тэарэтыкі зь ліку ўрадоўцаў вырашылі, што паводле марксізму тыя, у навейшых, якраз і даюць падставу лічыць іх кулакамі. Кулакоў жа, вядома, належала раскулачыць — галоўным чынам дзеля таго, каб не лічыліся кулакамі. Адначасна трэба было саслаць іх у тундру, у новаствораныя дзеля таго канцлягеры, прыярытэт стварэньня якіх пасьля спрабавалі аспрэчваць нямецкія нацы. Ды марна. Патрыёты зь ліку вучоных уласных вынаходзтваў замежнікам не саступалі, чым заўжды і ганарыліся.

Некаторым тады (вядома ж, людзям наіўным) здалося, што барацьба на тым скончыцца, бо клясаў-антаганістых у краіне не засталося. Рабочыя, сяляне ды ня надта прыстойная праслойка былі моцна сьцятыя змычкай, у якой аж задыхаліся, але трывалі. Ды партыя сваім даўгім пальцам хутка паказала на новую небясьпеку — на буржуазных нацыяналістых, якія нямаведама адкуль вынiклі ў кожнай рэспубліцы. Адразу ж разгарнулася шалёная барацьба зь імі, найперш, вядома, з дапамогай славутага **нагана**. Нацдэмаў найбольш расстрэльвалі (бяз права перапіскі) або на 10 гадоў ссылалі на Калыму (бяз права звароту). Якраз у тым і палягала новая сыстэма права ў адрозьненьне ад рымскага, дзе ўсё будавалася вакол дылемы: вінаваты — невінаваты. Тут жа панаваў катэгарычны імпэратыў: калі арыштаваны, дык і вінаваты. Невінаватыя сьпяць дома, што было чыстаю праўдай.

Не пасьпелі, аднак, управіцца з нацдэмамі, як насыпалася новая праблема — пошукі шкоднікаў. Псаваліся мэханізмы, ламаўся транспарт, здыхалі каровы ды коні. Вядома, то была справа рук шкоднікаў — варожае катэгорыі, дужа працаёмкае для карных органаў, бо ўмела адмыслова маскіравацца. Калі, напрыклад, датэрмінова будавалі завод, дык як належала да таго паставіцца? Узнагароджваць ці арыштоўваць? Звычайна рабілі менавіта ў такой пасьлядоўнасьці — узнагароджвалі, а затым арыштоўвалі, бо той завод рана ці позна спыняўся — ламаўся, узрываўся або гарэў. Але то была падвойная праца, якая патрабавала немалых высілкаў ад і без таго спрацаваных органаў. Часам здараліся няўпраўкі, калі ўзнагародзілі, а пасадзіць забыліся. Тады караліся карныя органы, што з тае нагоды ўзгараліся яшчэ большай нянавісьцю да ўсіх гэтых шкоднікаў, нацдэмаў, кулакоў і падкулачнікаў. Каб тая нянавісьць пасьпяхова рэалізавалася, яны вучыліся самі і школілі сваіх памагатых страляць так трапна, каб на кожную патыліцу трацiўся адзін патрон. За тое атрымлівалі значок і назвіска «варашылаўскі стралок». То былі стаханаўцы органаў. Працы для іх, ведама ж, хапала. Расстралянымі набівалі ямы на стрэльбішчы НКВД у Курапатах пад Менскам. Але ж гэткія стрэльбішчы былі ў кожнай вобласьці, у кожным раёне, дзе былі органы НКВД. А органы НКВД былі ўсюды.

Стральцы так захапіліся сваім рамяством, што яго не прыпыніла нават вайна з фашызмам. На першы пагляд, дзе, як не на вайне, можна было праявіць майстэрства трапнай стральбы? Але тое толькі на першы пагляд. Рэч у тым, што вышкаленыя яфрэйтарам «фашыстоўскія стральцы СС» таксама ўмелі няблага страляць — хоць у лоб, хоць у патыліцу — і нямала перастралялі «варашылаўскіх», асабліва напачатку вайны. Тады, мусіць, каб зьберагчы каштоўныя кадры, былі створаныя адмысловыя фармаваньні — «заградатрады», якія, як вядома, займалі пазыцыі ў тыле ўласнага войска і выкарыстоўваліся выключна паводле іхнага прызначэньня — страляць у патыліцы. У той справе яны здабылі на вайне выключнае майстэрства і былі спрэс узнагароджаныя — ад пляча да дзягі.

Але ўсё, што мае пачатак, мае і канец. Скончылася вайна, хоць барацьба ня скончылася. На гэты раз першымі падасьпелі касмапалітыя. Гэта тыя, што ня надта любілі сваіх і ня дужа ненавідзелі былых саюзьнікаў. Тое, вядома, было недапушчальна. А тут яшчэ зь вялікае групы касмапалітых вылучылася маладзёвая групоўка нізкапаклоншчыкаў, якія бессаромна маніпулявалі ўласнымі штанамі і спадніцамі — то рабілі іх вузкімі, то шырокімі, то кароткімі, то даўгімі, зьбіваючы тым з панталыку спэцыялістых у штацкім і псуючы ідэалёгію. У бяззбройнай барацьбе з гэтай катэгорыяй пачалі дыскваліфікавацца «варашылаўскія стралкі», якіх пакінулі бяз працы. Ведама ж, яны мелі ахвоту і маглі настраляць хоць мільён «валасацікаў», але ім неабачліва сказалі: нельга! Адзін культ скончыўся, а другі яшчэ не пачаўся, трэба пачакаць. То, канечне, было памылкай. Жалезная імпэрыя з тае прычыны зазнала заняпад, а праз пэўны час і зусім развалілася.

Тут трэба зазначыць, што той развал некаторыя спрабуюць аднесьці на рахунак трох белавескіх зуброў, але, на мой погляд, гэта няправільна. Праўдзівая прычына палягае ў заняпадзе традыцыяў, найперш слаўных традыцыяў «варашылаўскіх стралкоў». Склалася ненармальная сытуацыя, калі стралкі былі, елі, пілі, атрымлівалі немалую зарплату, а не стралялі. Праўда, іхныя ідэолягі намагаліся тое кампэнсаваць тэорыяй. Найперш дыялектычна пераасэнсавалі такое эфэмэрнае паняцьце як **патрыятызм** у ягоным дачыненьні да ня менш цьмянага — **нацыяналізму**. Зьявілася непісаная, затое жалезная выснова: калі сваё, дык патрыятызм, калі чужое, дык нацыяналізм. Схема простая, але геніяльная, якая трохі пазьней стала складовай часткай стратэгічнай дактрыны вялікай нацыі, што зьніякавела без адэкватнай нацыянальнай ідэі.

Але тыя, што вынайшлі тую дактрыну, тут жа яе і прыватызавалі, мабыць, каб ня даць таго зрабіць іншым. Іншыя хто як: пасьпеў, дык зьеў, а не пасьпеў, дык аблізнуўся. Увішныя прыбалты пасьпелі, а чачэнам дасюль не ўдаецца. Любіць вялікага суседа дазваляецца ўсім, суседу ж любіць каго — неабавязкова. Дзіва, як у гэтых умовах дазволена любіць аднаго на ўсіх — Бога? Заблыталася палітыка, этыка і мараль. Людзі перасталі разумець, дзе чыя мова, чыя сымболіка і дзяржаўнасьць. Нават чый дзе бюджэт — дзяржаўны, СНГ, прэзыдэнцкі? Пераблыталіся грошы — рублі з зайцамі; гандлююць на даляры і лаюць ЗША, што тыя іх мала даюць. У адной кучы перамяшаліся спрадвечныя катэгорыі дабра і зла, пасьля чаго стала зразумела, што без «варашылаўскіх стралкоў» справа не абыдзецца.

Ды што зробіш, калі прыярытэт быў аддадзены войску зь ягонаю зброяй масавага зьнішчэньня — ракетам, «градам», «тунгузкам»... Вядома ж, усё тое — дрэнь несусьветная перад заслужонай славай «таварыша нагана», які зрабіў рэвалюцыю, індустрыялізацыю, калектывізацыю, шмат год палоў ідэалягічныя ды навуковыя грады. Сучасная зброя прызначаная біць па плошчах, а плошчы бываюць розныя — найбольш вялікія. Таму і няўдачы — у Камбоджы, Афгане, Чачэніі, слаба разьвітой Афрыцы і Лацінскай Амэрыцы, дзе навалам зброі, ды мала хлеба.

Канечне, тое выдатна разумее наша мудрае кіраўніцтва і дзеля ўласнага паратунку актыўна імітуе працэс інтэграцыі. Карысьці з таго ніякай, затое ўражаньне калясальнае. Загіпнатызаваны электарат цярпліва чакае. Чаго дачакаецца толькі? Нахабная апазыцыя выводзіць на вуліцы легкадумна санкцыянаваныя дэманстрацыі, якія крычаць у тысячы горлаў, што яны — супроць! Састарэлыя майстры трапнай стральбы чарнеюць з гора, прыпамінаючы, як трудна было ў іх час дамагчыся таго слова нават на канвэерным допыце. Вось вам і прагрэс, сувэрэнітэт і дэмакратыя! Здохла ідэя — перапынілася традыцыя.

Хіба што паявіўся новы рух — заказных кілераў. Гэтыя, як умеюць, доўжаць слаўную дзяржынска-яжоўска-берыеўскую традыцыю трапных стральцоў. У новых умовах ёсьць спадзяванак удыхнуць у яе новую балкана-славянскую ідэю — колькі тады можна будзе зьдзейсьніць вялікіх справаў — і на Балканах, і ў Расеі, і ў Беларусі! Найперш закапаць па недаглядзе раскапаныя «Курапаты» і накапаць новыя. Вялікую справу паставіць на паток. Пакуль яшчэ жывуць старыя «майстры нагана», хаця і з аслабелым зрокам, але зь цьвярдой бальшавіцкай рукой. Сваё адмысловае майстэрства яны гатовыя перадаць маладзейшым.

Таму трэба сьпяшацца. Інтэгравацца. ■

# 350 ГАДОЎ ТАМУ ПАД ЛОЕВАМ

Генрых СЬВЯТАВОЛІЧ

Казацкая вайна, распачатая ў 1648-м ва Ўкраіне Багданам Хмяльніцкім, ахапіла, як вядома, і паўднёвыя ды ўсходнія паветы Беларусі, куды ўкраінскі гетман засылаў унівэрсалы і сваіх людзей. Пасьля цяжкага першага году змаганьня Хмяльніцкі рыхтаваўся да рэваншу. Каб «разабрацца з палякамі», армію Вялікага Княства яму найважней было затрымаць у Беларусі, дзеля чаго тут зноў раздзімалася полымя вайны.

Гетман Януш Радзівіл, які за зіму здолеў утаймаваць паўстанцаў у Беларусі, вясною таксама энэргічна рыхтаваўся да працягу дзеяньняў. На лета ён сабраў да 6 тысяч жаўнераў пад Рэчыцай і стаў шыхавацца да маршу на Ўкраіну. Не дапускаючы яго да супольных дзеяньняў з палякамі (каб «бавіўся ў сваім краі!»), Хмяльніцкі ў чэрвені накіраваў у Беларусь трохтысячны загон Галоты, а следам — палкоўніка Галавацкага. Пад Загальлем, на Прыпяці, Галота атакаваў харугвы Валовіча, але, хоць сілы меў нашмат перасяжныя, пацярпеў паразу і сам загінуў у сечы. А Галавацкі натрапіў на засаду пад Рэчыцай і скончыў тым жа.


*Маскоўскія ваяры часоў Івана Жахлівага, паводле С.Гербэрштайна, 1548*

Тады, каб паправіць становішча, Хмяльніцкі сьпешна паслаў 12 тысячаў на чале з Пабадайлам да Лоева, загадаўшы заблякаваць пераправу праз Дняпро. Той спаліў Лоеў і пасьпеў добра ўмацавацца на левым беразе ракі. А Радзівіл ужо пакінуў Рэчыцу і стаў кіравацца проста на Кіеў. Плянаваў пераходзіць праз Дняпро ніжэй Лоева, захапіўшы пераправу ўдарамі з двух бакоў. Аднак перад самым пачаткам апэрацыі выведнікі данесьлі, што Хмяльніцкі выслаў супраць Януша свайго любімага палкоўніка Міхаіла Крычэўскага на чале 15 тысячаў казакоў!

У адно імгненьне сытуацыя радыкальна зьмянілася. Адмовіўшыся атакаваць пераправу, князь Януш загадаў умацаваць абоз і стаў рыхтавацца да бітвы. Тысячу коньнікаў на чале з Адамам Паўловічам накіраваў на ўмацаваньне Рэчыцы, а другую тысячу з Самулем Камароўскім адправіў «на шаты» — вызначыць дакладнае месцазнаходжаньне Крычэўскага. Але Крычэўскі дзейнічаў настолькі імкліва, што ўжо раніцай 31 ліпеня зусім нечакана зьявіўся пад Лоевам і адразу ж атакаваў лягер Радзівіла.

Першая казацкая атака на абоз была адбітая пяхотай з ручной зброі, дзякуючы чаму Радзівіл пасьпеў расставіць свае харугвы (па цэнтры — кавалерыю, па баках — пяхоту і драгунаў) ды кінуць іх у контратаку. Гусары Невяроўскага моцна паціснулі правае крыло казацкай арміі, аднак прасунуліся задалёка, так што ў іх тыл сталі заходзіць казакі з процілеглага флянгу.

Яшчэ невядома, чым скончылася б сеча, каб не шчасьлівы для Радзівіла і нечаканы для Крычэўскага ўдар вершнікаў Паўловіча, які вяртаўся з Рэчыцы і, здалёк учуўшы бітву, наляцеў на непрыяцеля збоку. Адначасова правае крыло казакоў было атакаванае гусарамі Вінцэнта Гасеўскага. Ня вытрымаўшы шалёнага ціску з двух бакоў, чаркасы адступілі да густога лесу і заселі там, хуценька стварыўшы ўмацаваны лягер.

Радзівіл тым часам расправіўся зь людзьмі Пабадайлы, а потым зноў узяўся за Крычэўскага. Да начной цемры працягваліся атакі на ягоныя акопы, а ўначы казакі ўцяклі зь месца бітвы, кінуўшы на насілах свайго цяжка параненага камандзіра.

То была поўная перамога 5-тысячнай арміі князя Радзівіла над прынамсі ўтрая большымі сіламі славутага палкоўніка ў самай значнай бітве тых гадоў у Беларусі. Войска Крычэўскага перастала існаваць (толькі забітых чаркасаў у дзевятнаццаці курганах пахавалі ажно 7 тысячаў), табары былі захопленыя, а сам зьняволены палкоўнік памёр у абозе гетмана.

Гэты лоеўскі трыюмф палявога гетмана, біспрыкладны ў той бязьлітаснай вайне, уславіўся потым на карцінах і шпалерах, аб чым парупіўся сам Януш. Бляскам перамогі па вялікім рахунку ён быў абавязаны тым ваенным ведам, якія пасьпеў здабыць на Захадзе.

Застаецца дадаць, што ў Лоеўскай сечы беларусы біліся па абодва бакі: з Крычэўскім былі тыя, хто ўцёк у Запароскае войска, ды ўзбунтаваныя палескія сяляне, а з Радзівілам — шляхта і жаўнеры, набраныя ў беларускіх паветах. Дапамагалі яму і мяшчане ды аддзелы валюнтарыюшаў зь мясцовага люду. На знакавым узроўні Лоеў можна ўважаць за сымбаль расколу і грамадзянскае вайны. ■

# ПОЛАЦАК ПАД МАСКОЎСКІМ ПАНАВАНЬНЕМ

Андрэй ЯНУШКЕВІЧ

15 лютага 1563 году пасьля двухтыднёвай аблогі маскоўскае войска на чале з царом Іванам Жахлівым захапіла старажытны Полацак. На доўгіх шаснаццаць гадоў у Полацкім краі ўсталявалася маскоўская ўлада. Расейскія і савецкія гісторыкі пераконвалі, што маскоўскія ратнікі «вызвалілі горад ад польска-літоўскіх фэадалаў», што яны былі спатканыя прыязным насельніцтвам Полацку, якое толькі і думала пра скарэйшае ўзьяднаньне з усходнім суседам. А як было на самай справе? Пра што сьведчаць дакумэнты?

Ад тых часоў захаваўся адзін вельмі важны дакумэнт – «наказная память» новаму полацкаму ваяводу, якая вызначала асноўныя прынцыпы і мэтады кіраваньня горадам, пералічвала ўсе абавязковыя мерапрыемствы, што мусіла неадкладна правесьці новая ўлада ў горадзе і Полацкім краі.

Маскоўскую ўладу перадусім хвалявала ўзнаўленьне абарончых умацаваньняў і полацкіх замкаў, адбудова пагарэлага гораду. Даволі хутка сьцены былі ўзьнятыя з руінаў, горад жыў, але ўжо іншым жыцьцём. У Полацку ўсталявалі жорсткі прапускны рэжым для мясцовага люду: «а литовских людей в город, приезжих и тутошних, детей боярских, и земллян, и черных людей однолично не пущати». У замку з тутэйшых маглі жыць толькі праваслаўныя сьвятары са сваімі сем'ямі. Уваход ліцьвіноў у фартэцыю дазваляўся на царкоўныя сьвяты, але з надзвычайнымі мерамі бясьпекі з боку маскоўцаў: «а береженье тогды учинити великое в городе», загадвалася мясцовай адміністрацыі. Мяшчанам і шляхціцам, якія жылі ў пасадзкай частцы гораду, катэгарычна забаранялася мець зброю. За жыхарамі ўсталёўваўся сапраўдны паліцыйны нагляд: «и береженье им над теми людми держати великое, и велети смотрети и примечати, не будет ли в них какие шатости и ссылок с литовскими людми». Калі «шатость» выяўлялася, падазроных трэ было адсылаць у Пскоў, Ноўгарад, Вялікія Лукі ці Таропец.


*«Бітва на Славечне (Бітва пад Лоевам)», габэлен XVIII ст.*

Клапацілася новая ўлада і пра тое, каб схіляць мясцовы люд да ляяльнасьці, асабліва не рушыць звычаяў. Яна не зьмяніла мытных збораў і памераў падаткаў. Інструкцыя вымагала, каб мясцовае кіраваньне ажыцьцяўлялася з улікам даўняга ладу занятай зямлі: «да с их обычея сперва и судити и управы им в городе давати».

Зусім не давяраючы палачанам, маскоўцы выразна адрозьнівалі сваё прававое становішча ад правоў і абавязкаў мясцовых жыхароў. Новаўсталяваны рэжым бачыў у іх сталую пагрозу для сябе. Царскія ратнікі ў сваёй дзейнасьці былі зусім не падобныя да вызвольнікаў. Жыхарам сёлаў і мястэчак Полаччыны рассылаліся граматы маскоўскага ваяводы Пятра Шуйскага з патрабаваньнем, «чтоб они шли к Полоцку, и правду дали, и государю служили». Аднак ахвочых прысягаць цару было няшмат. У хуткім часе маскоўцы ажыцьцявілі шэраг карных акцыяў, бо, як потым тлумачылі, «люди Полотцкого повету воеводам непослушны были и воеводы по их вине их казнили».

Вайна і дзеяньні акупантаў прывялі да поўнага гаспадарчага заняпаду зямлі і дэмаграфічнай крызы. У інвэнтары сёлаў Полацкай архіяпіскапіі за 1588 год спрэс спатыкаюцца запісы тыпу «все в пусте» або «вси проч розышлисе». Яшчэ і на пачатку XVII ст. у некаторых вёсках колькасьць жыхароў не дасягнула і паловы таго, што было перад вайной Івана Жахлівага.

Сумныя вынікі ўладараньня маскоўцаў сьведчаць самі за сябе, чым насамрэч была іх улада для Полаччыны, вызваленьнем ці акупацыяй. ■

# БЕЛАРУСКІ ГІСТАРЫЧНЫ АГЛЯД-9

*Гісторыкі і аматары нашае мінуўшчыны могуць замовіць чарговы выпуск Беларускага Гістарычнага Агляду (Том 5. Сшытак 2/9).*

Нумар пачынаецца тэарэтычным артыкулам Рышарда Радзіка «Ад этнічнага згуртаваньня да нацыянальнай супольнасьці». У новым для Беларусі жанры індывідуальнай біяграфіі выступае Дзьмітры Левін з дасьледаваньнем «Нэкралёг магілёўскага гісторыка Мацьвея Фурсава як біяграфічная крыніца». Лёсы беларускай гістарыяграфіі за Саветамі разглядаюцца ў калектыўна-біяграфічным нарысе Райнэра Ліндпэра «Беларускія гісторыкі пад Сталіным: 1870—1945».

З арыгінальнымі публікацыямі выступаюць Алесь Белы («Тэрыторыя сучаснай Беларусі на мапе Ідрысі 1154 г.»), Барбара Пэндзіх («Паміж раем і кляқай») і Яўген Анішчанка («Мяжа ВКЛ у справах памежных камісій»). У рубрыцы «Вачыма суседзяў» беларускую тэматыку ва ўкраінскіх падручніках гісторыі аглядае Андрэй Партноў.

Як заўжды, значнае месца ў часопісе займаюць рэцэнзіі і агляд новай літаратуры па гісторыі. Сярод іншых публікацый гэтага блёку БГА зьмяшчае крытычны разбор дапаможніку «Гісторыя Беларусі» (Частка 1, 1998). Завяршаецца нумар інфармацыяй пра экспэдыцыі беларускіх археолягаў (сэзон 1998) і сьпісам дысэртацыяў па гісторыі Беларусі, абароненых у 1998 годзе. ■

# NEWCOSMOPOLIS

*«ЛЮБОЎ». Выдавец не пазначаны. Год выданьня невядомы.*
*«GLORIA PATRIA RUTHENIA ALBA». Выдавец не пазначаны. Год выданьня невядомы.*






Гаворку пра адразу дзьве касэты вяду адначасова толькі з тае прычыны, што яны ня надта адрозьніваюцца паміж сабой і зьяўляюцца, па сутнасьці, выданьнямі хутчэй падпольнымі, чым піратскімі. Хоць, азнаёміўшыся зь іх зьместам, я не пачуў наагул нічога, што магло перашкодзіць гурту пазначыць на ўкладках тых, хто апекаваўся справамі зьяўленьня пладоў іх творчасьці на сьвет белы са сьвету падпольля.

Такім чынам, нічога такога крамольнага і такога, што магло б пашкодзіць тонкаму слыху галоўнага дырыжора краіны, не пачуў. Ледзь стрымаўся, каб не напісаць: я наагул амаль нічога не пачуў. І такі ня стрымаўся вось, напісаў. Праўду дык праўду. Вось чаму, відаць, таямніцай засталося імя выдаўца: творчасьць Newcosmopolis не прадаецца! Ня ў тым сэньсе, што музыкі гурта — ушчэнт сьвядомыя і скрозь патрыёты, а таму, што такі прадукт на музычным рынку можа ўспрымацца сёньня выключна як анахранізм. Гэта як зьявіцца на вечарыну гіп-гопу і там папрасіць якога ды-джэя Дэ Біла паставіць рымэйк песенькі кшталту «Не спиться б только ветерану...»

Паспрабуйце, ня слухаючы Newcosmopolis, уявіць сабе дуэт Мулявіна ды Данчыка ў песьні з рэпэртуару «Камэлёту». Уявілі? Ну як яно? Прабірае?

Тады — без камэнтароў. Пры гэтым не вазьмуся сьцьвярджаць, быццам бы такога вось кшталту музыка нікога зацікавіць ня ў стане. Нармальна! Ахвотныя знойдуцца. Ды хоць бы аматары музычнае экзотыкі, новых, яшчэ не раскручаных, а таму цалкам невядомых стыляў.

Не, людцы мае, я не разумею: слухаеш так званую ваенна-патрыятычную беларускую эстраду — хоць ты за зброю хапайся! Мяркуючы па тых песьнях, ворагі дагэтуль родную зямлю топчуць. Паслухаеш жыхароў Новага касьмічнага месца — ды амаль тое ж самае! Скрозь беды ды гора! А на маю думку, чым вось так аплакваць залаты век мінуўшчыны, тое, што зьнікла, і падаваць усё з яўным подыхам штучнай патэтыкі, дык варта было лепш колькі рок-н-ролаў запісаць. Няхай і з пуставатымі тэкстамі.

Затое ніхто б тады й не задумаўся, чаму гэта ў тым Новым касьмічным месцы жыве столькі маладых творцаў з заўчасна пастарэлымі душамі?

Усё, што магу адзначыць вартага ўвагі на тых дзьвюх касэтах, дык гэта партыя акустычнай гітары. Там, дзе яна гучыць дарэчы. А электрычнае гітары — на жаль...

Тут жа вось яшчэ які нюансік. Адзін з расейскіх пісьменьнікаў неяк слушна сказаў: маўляў, калі можаш не пісаць — не пішы. Перайначыўшы, выкажуся: калі можаш не запісваць — не запісвай! І не выдавай. Пашкадуй, у рэшце рэшт, слухача, які ніяк не вінаваты, што ў цябе нейкія праблемы!

Слухач

# ORBITAL

*Middle Of Nowhere 1999 WEA/SIRE*



Тыя, хто знаёмы з папярэдняй творчасьцю братоўбрытанцаў Paul і Phil Hartnoll, яшчэ да выхаду новага рэлізу Orbital маглі з поўнай упэўненасьцю гаварыць пра першакляснасьць і якаснасьць новага CD. Цяпер жа гэтыя словы яны могуць падмацаваць васьмю трэкамі, якія ўвайшлі ў Middle Of Nowhere.

Orbital, бадай, ці не самая ўплывовая і культавая група сучаснай электронікі, з кожным чарговым альбомам расчышчае ўсё новыя гарызонты, пэрспэктывы і краявіды. Нягледзячы на сьцьвярджэньне, што падобную музыку пра цяперашнім разьвіцьці тэхнікі і тэхналёгіяў можа рабіць практычна кожны, мала хто зробіць гэта лепей за іх. Пачаўшы ў 89-м з арыгінальнага і геніяльна простага сынглу Chime, зь цяпер ужо клясычнага, арыентаванага на танцпол рэйву, яны паступова дрэйфуюць у бок музыкі, якую слухаюць разьняволеным ў фатэлі — таго, што завецца digital elegance. На Middle Of Nowhere Hartnoll'ы спрабуюць зьмяшаць ледзьве ня ўсё, што маюць у сваім музычным досьведзе — у выніку атрымліваецца прыемная і, калі такі тэрмін дапасоўны, інтэлектуальная музыка для ног. Калі на мэце набыцьцё менавіта такой электронікі, то Orbital — найлепшае інвэставаньне.

Характэрная мэлёдыка папярэдніх працаў нанова адкрытая музыкамі на Middle Of Nowhere. Адчуваньне, якое дае сама музыка — вельмі мяккае, нягледзячы на тое, што пераважаюць дысанантныя акорды і чароўныя мінорныя мэлёдыі. Усе трэкі надзвычай роўныя і плаўна перацякаюць адно ў адзін, як пры высокаклясным адным DJ-сэце, наскрозь рассыпаны жаночы вакал, які часам падобны на лямант, а сынкапаваныя рытмы пранізваюць ўвесь альбом, робячы яго фанкавым. Невялікія хібы і паўторы незаўважальныя па-за ўсімі перавагамі. Урэшце, гэты альбом Orbital — электроніка настолькі спажыўная, што яе купляе нават неабазнаны ў такіх рэчах Канстанцін Міцкевіч.

*Rating: 7*

W.Sabalewski

# RED HOT CHILI PEPPERS

*Californication*
*1999 WEA/WARNER BROS*



Самы актуальны на сёньня рэліз — з прычын ня столькі музычных, як праз невыносную сьпёку, якая робіць нашую краіну падобнай на гарачую Каліфорнію, а рытм жыцьця — да музыкі RHCP.

Невядома зь якіх прычынаў, але, здаецца, Chili Peppers супакоіліся і выдалі вельмі мэлядычны альбом, які казыча вушы, прымушае тахкаць сэрца і робіць вільготнымі вочы. Першае, што кідаецца ў вушы — RHCP павярнуліся да панк-фанку славутага Blood Sugar Sex Magic. Гэтае вяртаньне да свайго арыгінальнага гучаньня таксама адзначанае прыходам у калектыў John Frusciante, што замяніў Dave Navarro, які некалькімі гадамі раней замяніў John Frusciante. Ад гэтых хлапцоў чакаюць трохі грубаватай, хаця й стракатай музыкі, Californication жа атрымаўся вельмі далікатным і вельмі прыватным.

Трэкі кшталту Otherside, Scar Tissue і This Velvet Glove запоўненыя гармоніяй, на тле якой гітара Frusciante дапаўняе эмацыйны вакал Anthony Kiedis і напросту сэнтымэнтальную лірыку. Першы трэк Around The World — адна з самых моцных рэчаў, напісаных квартам — гэта апавед пра марныя пошукі амэрыканскай мары ў Каліфорніі. Аднак падобныя сэнтымэнты ніякім чынам ня ганяць славы RHCP як носьбітаў агрэсыўнай музыкі. Бо іхная музыка стала яшчэ больш густой і тугой — гэта даказваюць Get On Top і I Like Dirt. Самая ж вялікая анамалія на Californication — гэта Savior, дзе гукі гітары Frusciante прымушаюць узгадаць раньняга Peter Green. І, вядома ж, бліскучая ігра на бас-гітары Flea.

Папярэднія праекты RHCP вызначаліся выключна высокай энэргетыкай, Californication атрымаўся больш памяркоўным і задуменным. Ці чакалі вы такога і ці хочаце вы менавіта такой музыкі?

*Rating: 6*

W.Sabalewski



# НОВЫЯ КНІГІ, ДАСЛАНЫЯ Ў РЭДАКЦЫЮ

**Аляксандар Пушкін і Беларусь = Александр Пушкин и Беларусь/ Укладальнік Т.Махнач. Гал. рэд. А.Мальдзіс. — Менск: Беларуская навука, 1999. — 428 с.: іл. — Наклад 1000 ас. ISBN 985-08-0307-X**

*Зборнік — плён працы Скарынаўскага цэнтру (летась быў гэткі самы пра Адама Міцкевіча) і прысьвечаны сувязям зь Беларусяй Аляксандра Пушкіна: ягоным падарожжам праз наш край, нашчадкам — жыхарам Беларусі, уплыву ягонае творчасьці на беларускую літаратуру й мастацтва. Побач з дасьледзінамі й артыкуламі ў зборніку зьмяшчаюцца пераклады вершаў расейскага паэта на беларускую мову й найпаўнейшая бібліяграфія ягоных твораў, перакладаў ды іншых зьвязаных зь ім кніг, выдадзеных у Беларусі ад 1864 г.*

**Аркуш А. Выбранае: Вершы й паэма. 1988—1998. / Бібліятэка часапісу «Калосьсе». Кн. 2. — Полацак—Горадня: Выд. суполка «Полацкае ляда», 1999. — 55 с. — Наклад 100 ас.**

*Новы зборнік паэта Алеся Аркуша, выдадзены Таварыствам Вольных Літаратараў, называецца «Выбранае», але ў яго, здаецца, увайшлі ці ня ўсе творы паэта, у тым ліку й паэма «Грыфон».*

**Асташонак Л. Гарадко Г. Ішчанка Г. Мэтодыка выкладаньня беларускае літаратуры: Пад рэд. В.Ляшук. — Менск: ВП «Экаперспэктыва», 1999. — 445 с. — Наклад 2000 ас. ISBN 985-6102-35-9**

**Гарадзенскія апосталы: Беларускі нацыянальны рух у Горадні (1918—1920). — Горадня: Гарадзенскае аб'яднаньне «Альянс імя Вітаўта Вялікага», 1999. — 49 с.: іл. — Наклад 290 ас.**

*Новы гарадзенскі краязнаўчы часапіс. Ягоны прынцып: адзін нумар — адно дасьледаваньне. Аўтар першага нумару-тэксту Андрэй Чарнякевіч прасочвае чыннасьць у Горадні ўрадавых органаў БНР ды іншых беларускіх арганізацыяў у 1918—1920 г. Зьмяшчаецца бібліяграфія, біяграма й плян Горадні з паказаньнем 25-ёх аб'ектаў, зьвязаных зь беларускаю палітычнаю актыўнасьцю таго часу.*

**Калосьсе: Літаратурна-мастацкі альманах. № 6, 1998. — Полацак. — 143 с.**

*Публікуюцца ўрыўкі з раману аўстралійскага пісьменьніка Томаса Кенэлі — аўтара славутага «Сьпісу Шындлера» — «Сямейнае вар'яцтва», што распавядае пра сям'ю беларускіх эмігрантаў у Аўстраліі. Цікавае, але дужа спрэчнае тлумачэньне аўтарам беларускае гісторыі й нацыянальнага характару, рэпрэзэнтаваных у гэтай кнізе. Беларускі лёс разглядаецца тут праз прызму калябарацыянізму ў часе другое нямецкае акупацыі. Аўтар ведае пра Беларусь з сумнавядомае кніжыцы Джона Лофтуса «Беларуская таямніца» (1982), таму ўвесь беларускі лёс у рамане — гэта фабулязаваныя матывы дасьледзінаў Лофтуса. Пераклад Яна Максімюка. Год стаіць '98, а выйшаў ён толькі цяпер.*

**Кантакты й дыялёгі: Інфармацыйна-аналітычны й культуралягічны бюлетэнь. № 1 (37), 1999. — Менск, 1999. — 56 с.: іл.**

*Першы сёлетні выпуск бюлетэню Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў прысьвечаны юбілею А.Пушкіна. «Пушкінскія юбілеі для беларускага народа заўжды былі вялікім сьвятам», — распачынае нумар Ігар Сьцяпунін артыкулам «Пушкінскі юбілей 1899 г. у Менску». Цікавыя дасьледзіны парыскага навукоўца Жан-П'ера Жанта «Папярэднія высновы беларусазнаўчага сацыялінгвістычнага апытаньня», а гэтаксама рэцэнзіі на навінкі беларусазнаўчага друку, у прыватнасьці, на японскую кнігу Рунасукэ Куроды «Частотны слоўнік беларускае мовы. 1500 словаў» (Токіо, 1998).*

**Пушкін А. Яўген Анегін = Евгений Онегин: Раман у вершах/ Прадмова й камэнтары М.Кенькі. Укладаньне У.Гілепа й М.Кенькі. Пераклад на бел. мову А.Куляшова/ Мастак А.Кашкурэвіч. — Менск: БФК, 1999. — 512 с.: (45) л. іл. — Наклад 15000 ас. ISBN 985-6523-04-9**

*Славутая паэма, выдадзеная пад цьвёрдай брунатнай «фаліянтавай» вокладкай «на даручэньне прэзыдэнта РБ А.Лукашэнкі». Апроч гэткае высокае «апекі», кніга гэтая аздобленая графікай Арлена Кашкурэвіча, і будзе ўпрыгожваць кожную бібліятэку. Каштуе гэткі выдавецкі шэдэўр блізу 800000 «зайцоў».*

**Спадчына. №2, 1999. — Менск. — 224 с.: іл. — Наклад 3060 ас.**

*«Спадчына» друкуе, спасярод іншых сваіх матар'ялаў, вынікі дасьледзінаў гісторыка Алеся Белага, які адшукаў старыя эўрапейскія карты, на якіх адлюстраваная Беларусь 13 ст. Адна зь іх — з найстаражытнейшаю выяваю Полацку — публікуецца (упершыню) у каляровым варыянце.*

**Чытаў кнігі Віктар Мухін**

100 твораў мастацтва XX стагодзьдзя



# ГАЎРЫЛА ВАШЧАНКА. ЖНІВЕНЬ

Калі заходзіш у менскі Дом настаўніка і бачыш у фае вялізарнае пано «Асьветнікі» — галоўны скарб гэтае установы, які мае шматкроць большую каштоўнасьць за архітэктуру самога будынка, душу ахопліваюць нечаканыя пачуцьці... Для дасьведчаных — гэта найбуйнейшы ўзор *энкаўстыкі*, спэцыфічнае мастацкае тэхналёгіі, карані якое ўзыходзяць яшчэ да старога Эгіпту. Зноў жа для дасьведчаных — гэта канцэптуальная рэч, у якой распаведзена пра гісторыю нашае культуры ад Скарыны да Купалы, якія нясуць скрозь вякі справу сваіх думаў і дораць яе нашчадкам. Менавіта нясуць. Фаліянты, скруткі, кніжачкі... Як вешчуны-каралі, што пабачылі зорку над Вэтлеемам, нясуць дары да ног дзіцяці. Пасярэдзіне кампазыцыі кола сьвятла — адпаведнік мандолы, у якім дзьве постаці, жанчыны-настаўніцы і хлопца. Менавіта хлопца. Цяжка абстрагавацца, каб не прымаць іх за спрадвечны біблейскі сюжэт Маці і Сына... Гэта і ёсьць аўтар беларушчыны, зроблены згодна з канонамі. Цікава, як гэткая апалягетыка нацыянальнае ідэі «прайшла» ў *тыя* часы? А менавіта ў 1976 годзе...

На той жа пэрыяд прыпадае, бадай, росквіт Вашчанкі як жывапісца. Безумоўна, ягоныя вітражы для Дому кіно таксама вартая ўвагі рэч. І ўжо праз чвэрць стагодзьдзя яны глядзяцца ў Чырвоным касьцёле, нібы былі тут спрадвеку. Балазе ацалелі... Уражвае таксама і калясальнае пано ў Салігорску. Аднак усё ж найлепшае стварэна Вашчанкам менавіта ў станкавым жывапісе. Я маю на ўвазе не толькі «Баляду пра мужнасьць», за якую мастак атрымаў прэмію ды срэбны мэдаль у Маскве. Гэта насамрэч адметнае палатно, якое пераўзышло ўсё, што было папярэдне створанае ў тэме нашае партызаншчыны. Дакладней, яно вывела гэтую тэму з калідорау натуралізму й тэатралізацыі ў іншае вымярэньне. «Баляда...» Вашчанкі — гэта аповед не пра нейкую «мужнасьць», а пра гармонію беларуса й беларускага лесу. Пра нязломнасьць нашую, пакуль будзе нашай нашая зямля. Я маю на ўвазе і «Маё Палесьсе», і «Нафтавікоў Палесься», і «Мацярынскія крылы», «Верасьнёўскія туманы», «Першы сьнег» ды іншыя творы.

У эпоху манумэнталізму гэтыя работы ўпісаліся як нельга лепей. Ня гэтак непазьбежнай маштабнасьцю, як узважанасьцю думак і адсутнасьцю штучнае разьятранасьці, за якою часьцяком ягоныя калегі хавалі сваю бездапаможнасьць. Манумэнталізм Вашчанкі — у ягонай цэласнасьці, мастакоўскай і чалавечай. Можна нанава перагледзець ягоную творчую спадчыну і ня знойдзецца тут ані дэбільнае радасьці будаўнікоў камунізму, ані туманнага «эзатэрызму»... Вашчанка займаўся тым, што добра ведаў. Напрыклад, ён добра ведаў людзкое жыцьцё на родным Палесьсі. Пэўна, да гэткай дэідэалягізацыі (за выняткам нацыянальнага фундамэнталізму пано ў Доме настаўніка) спрычынілася й львоўская школа. Менавіта там у першыя паваенныя гады ўлады не сьпяшаліся «дражніць гусі», а таму атмасфэра там, поўная трывогі й тугі па незваротна страчаным, была плённай для тых, хто хацеў проста тварыць... Вадай, адтуль жа было вынесенае пачуцьцё самакаштоўнасьці ўсяго свайго, таго, чаго нікому не аддасі, але і крычаць пра што ня будзеш.



**Гаўрыла Вашчанка** (1928, вёска Чыкалавічы, Брагіншчына) жывапісец, пэдагог. Вучыўся ў Львоўскім інстытуце ўжытковага й дэкаратыўнага мастацтва, які скончыў у 1955 годзе. Выкладаў у Кішынёўскай мастацкай вучэльні да 1960. З 1961 году выкладае ў Беларускім тэатральна-мастацкім інстытуце, дзе ў 1980 і стаў - прафэсарам. Народны мастак Беларусі.

У сваіх палескіх творах мастак унікнуў этнаграфізму, штучна прытарнаванага да калгасных сюжэтаў. Зямля і людзі для Гаўрылы Вашчанкі — гэта не паказны эрзац для чужых, якім трэба яшчэ раз даводзіць сваю адметнасьць. Будзь сабою, а ўжо выключным табе быць наканавана — блізу гэткім дэвізам можна вызначыць творчыя прынцыпы жывапісца. Там, дзе ён імкнуўся да абагульненьня пэрсанальнага досьведу, тамака ж узьнікала і яснасьць. Яснасьць думкі, кампазыцыі й калярыту...

Лепшым пацьверджаньнем таму — палатно «Жнівень», напісанае ў пару найвышэйшага творчага ўздыму мастака, у 1975 годзе. Калі ў каго добры зрок, ці добрае ўяўленьне, той разгледзіць у самым версе, па цэнтры, вышэй за ўсё — чырвоную падводу, запрэжаную чырвоным канём, абрыс чалавек на тле странцыянавага пісяга — гурбы яблык. Ці гэта ўлагадненае Ільля перуновы, ці Юры сьвяты, што такі дабіў ужо цмока? Гэтая загадкавая, напаўпрывідная постаць злучае сабою, нібы замковы камень выгбу брамы, усю кампазыцыю. На пэрсанажы з падводаю сыходзяцца простыя лініі абсечанага трохкутніка, лініі Саду. Сам Сад, бязьмежны й ўсеабдымны, нібы мадэль самога яблыка, убірае ў сябе сокі жыцьця, а косткаю, стрыжнем ягоным, ёсьць чалавек. Трохкутнік паўтораны наўмысна яшчэ раз пірамідаю яблыкаў на другім пляне. А на першым — Яна. Ці ня Ева з плодам? Не. Тут няма ні граху, ні спакусы. Тут шчодры й шчыры дар. І толькі... Аднак аб Эдэму тутака ўсё ж багата: распахнутая Брама (няхай сабе і адрыны), пры ёй дзьве жанчыны ў сьветлым, нібы анёлы, і водар, гэткі незямны, загуслы й сьвежы, у бліскавіцах залатых, пунсовых й зяленкавых пісягоў.

«Жнівень» Вашчанкі адразу быў ацэнены высока, як і ўся ягоная тагачасная творчасьць. Гэтая карціна патрапіла ў хрэстаматыі, альбомы, часопісы. Хто мог прадбачыць, што гэты твор загучыць гэтак драматычна сёньня, калі родныя мясьціны мастака густа зацярушаны чарнобыльскім попелам. Гэх, які быў там Сад...

**Сяргей Харэўскі**

■

# Die modernen Sagen-3

Сяргей БАЛАХОНАЎ

## Край ты, мой край...

Адзін мой знаёмы распавёў такую гісторыю. Нейкі п'яны хлопец, пацурболіўшы, зашпільваў прарэху і «маланкай» зашчапіў край нечага там. Спробы вызваліцца прычынялі толькі боль, не даючы ніякага эфэкту. Выкліканыя мэдыкі таксама бездапаможна разьвялі рукамі. Таму яны мусілі адрэзаць ад штаноў лапік з замкам і адвезьці хлопца ў «першую савецкую». Тамака знайшоўся адзін кампэтэнтны спэцыяліст, які нарэшце разьвязаў гэтую праблему бяз шкоды для пацыента, што ўжо быў зьмірыўся з думкаю пра абразаньне.

*Занатавана ад маладой офіс-мэнэджэркі.*

## Звычайны міліцыянт

У першым інтэрнаце Гомельскага ўнівэрсытэту жыў адзін міліцыянт, які ці не ад самага нараджэньня быў п'яным. Ня тое ў выняткам і той вечар, калі ён ашалела тупаў па інтэрнацкіх калідорах, яўна нешта шукаючы. Усе пражываныя пахаваліся па «каморах», спадзеючыся, што гэтае ліха праміне іх ціха. Раптоўна мент спыніўся насупраць аднаго пакою, і цераз нейкае імгненьне па калідоры пранеслася рэха грукату выламаных дзьвярэй. Міліцыянт увайшоў у пакой і з калгаснай непасрэднасьцю спытаў у пераляканых мяшканцаў: «Рабята, у вас заваркі не найдзёцца?»

*Запісана ад студэнта-выпускніка.*



## Змова

Да аднаго заможнага хлапца прыйшла цяжарная дзяўчына, якая настойліва заяўляла, што ён бацька будучага дзіцёнка. Аднак хлопец бачыў яе ўпершыню ды ня мог прыгадаць выпадку, які ўмагчыміў бы іхнае збліжэньне. Цяжарная й сама ня здолела толкам растлумачыць калізіі. Правёўшы даражэзныя аналізы, патэнцыйны бацька высьветліў сваю прычыннасьць да справы і быў зусім зьбянтэжаны. Чыста выпадкова небарака даведаўся, што цяжарная была сяброўкаю ягонай колішняй каханкі, і запасочны няладнае. Пасьля вялікіх разьбіраньняў выявілася: каханка, робячы хлапцу мінэт, колькі разоў не пракоўтвала семя, зьбірала яго ў шпрыц і прамаруды аддавала сяброўцы-змоўніцы, пакуль сьпешчаны палюбоўнік ляжаў на любасным ложку.

*Гэтую неверагодную гісторыю я падслухаў у гутарцы двух хлапцоў (прыблізна 15—16-гадовага веку), якія ехалі побач у аўтобусе. Сэкс, асабліва няхьведаны, заўсёды даваў падставы для фантазіяў.*

## Маўклівы легіянэр

Неяк у таварыскім коле мы завялі гаворку пра спэцназ. Амаль кожны вымаўляў сваё захапленьне прафэсійнай падрыхтаванасьцю спэцназаўцаў. І толькі самы маўклівы хлапец, які нібыта колькі гадоў быў дзесьці ў заработках, скептычна чмыхнуў: «Падумаеш, спэцназ! Вось французскі Замежны Легіён — іншая рэч». Пасьля чаго ён узяў нож, уваткнуў яго сабе ў нагу, зрабіў надрэз на паўсьцягна ды неўзабаве зашыў гэтую рану ніткамі, ушчэнт агаломшыўшы кампанію.

*Занатавана з расповеду студэнта-выпускніка. Людзі пакутуюць ад банальнасьці вакол сябе і хочуць верыць, што бываюць побач і дзівы, і незвычайныя людзі.*

## Смага

Адзін мой сябар паведаміў нешта цікавае пра нейкую сваю знаёміцу. Будучы зусім разьняволенай у любасных справах, тая заўсёды спалучала мінэт з ужываньнем піва. Гэткі вычуд яна тлумачыла тым, што смакавыя якасьці мужчынскіх чэлесаў не саступаюць таранцы, і ёй мусова патрэбна праганяць смагу размаітымі гатункамі беларускага хмяльнога напою.

*Запісана са словаў маладой прадпрымальніцы. Заўсёды, маўляў, ёсьць нехта, больш разбэшчаны за мяне. Хочацца і колецца.*

Адам ГЛЁБУС

# МАСТАЦКАЕ

*Афарызмы*



Здымак Алены Адамчык

*

Зьмена паводзінаў -- найцяжэйшае з мастацтваў.

*

У тэксты ўчытвайся, у музыку ўслухоўвайся, у малюнкі ўглядайся... Так нарэшце зможаш пабачыць, пачуць і зразумець самога сябе.

*

Чытачы лёгка падзяляюцца на садыстаў і мазахістаў, садысты чытаюць Захера Мазоха, а мазахісты – маркіза дэ Сада.

*

Хвалячы іншых, міжвольна ўсхваляеш сябе, і гэта лёгка адсочваецца.

*

Фальшывыя манэты зьяўляюцца з-за недахопу сапраўдных грошай у таленавітых людзей.

*

Папулярнасьць фармуецца ў нетрах натоўпу, які прагне яскравых праяваў сьляпога лёсу, адсюль і Папялушка зь ператварэньнем у прынцэсу, і прэзыдэнт зь сялян-жабракоў.

*

Гавары пра свае недахопы — гэта больш цікава, чым развагі пра дасягненьні й перамогі. Набыткі зазвычай у мінулым, а заганы — у будучым.

*

У кожнага чалавека ёсьць свая цана, але існуюць людзі бясцэнныя — геніі й жабракі.

*

Літаратар ня ведае сваіх чытачоў, як мастак незнаёмы са сваімі гледачамі, а музыка — са слухачамі. Так можна адказаць на пытаньне, зададзенае Франсуа дэ ЛяроШфуко: «Чаму мы запамінаем з усімі падрабязнасьцямі тое, што з намі здарылася, але ня здатныя запомніць, колькі разоў мы распавядалі аб гэтым адной і той самай асобе?»

*

Не бывае больш сумнага занятку, чым імітацыя весялосьці. Спачувай блазнам.

*

Захапленьні, як і каханьне, патрабуюць узаемнасьці.

*

Культура — гэта веданьне дакладнай адлегласьці, на якой мусіш вітацца з ворагам. ■

Кастусь ТРАВЕНЬ

# ТОСТ

*Апавяданьне*

Першая зорка загарэлася на захадзе. Хмары гонка імчалі на ўсход, несучыся на крылах сьвежага, нарастаючага да моцнага ветра, які ўрываўся ў горад і пачынаў блукаць у лябірынтах менскіх вуліцаў.

Казік Бакунін сьпяшаўся, і таму шпарка ішоў па Варвашэні. Рухомы і энэргічна-ветлівы, у сініх джынсах, сьветлай кашулі, лёгкіх красоўках, ён ствараў уражаньне зусім маладога чалавека.

Сёньня стары сябар і да таго ж ягоны сваяк Алесь запрасіў яго на нейкі свой юбілей. Па сваёй недасьведчанасьці, якая ішла ад маладосьці душы, Казік не любіў юбілеяў. Калі чалавек дамогся нейкіх вялікіх асабістых жыцьцёвых перамог, стаў прэзыдэнтам, Нобэлеўскім ляўрэатам ці нарадзіў і выхаваў шмат дзяцей, якія сталі прэзыдэнтамі і Нобэлеўскімі ляўрэатамі, тады так, тады можна і трэба сьвяткаваць юбілей. А калі проста змарнаваў жыцьцёвы час, прасоваўся ў масоўцы, прачакаў? Што тады сьвяткаваць? Змарнаваны час?

У краме на рагу Максіма Багдановіча і Варвашэні, Казік купіў бутэльку «Крышталёвай» і бутэльку шампанскага, кавалак вэнджанага мяса, траецкага хлеба, яшчэ таго-сяго па дробязі і хутка накіраваўся да трамваю. Сябар жыў на Старавіленскай. Едучы ў трамваі, Казік дадумаў незакончанае разважаньне: «Народ хоча смачна паесьці і добра выпіць, таму і сьвяткуе чужыя юбілеі».

На парозе свайго дому падпіты Алесь радасна сустрэў Казіка, пацалаваў у шчаку, павёў знаёміцца з гасьцямі, якія сумавалі за сталом, на якім усё ўжо было выпіта і зьедзена.

Казік аддаў сумку Машы, цяперашняй каханцы Алеся, шапнуў на вуха, каб разабраліся на кухні з закускай, сам панёс да стала бутэлькі.

Госьці, калегі Алеся па працы, тры жанчыны і двое мужыкоў, павесялелі. Казік прынёс з сабой сьвежы водар жыцьця, і ўсе гэта адразу адчулі. Адна з жанчын, яе звалі Наталі, чарнабровая, у зялёнай сукенцы, якая пяшчотна абцякала тугія формы прыгожага цела, ласкава ўсьміхнулася Казіку. Ён пераехаў у патрэбную паласу руху і пасьля звычайных слоў знаёмства зусім натуральна сеў побач з прыгажуняй.

Адчуўшы пэрспэктыву працягу юбілею, госьці ажылі і загаманілі. Маша ўжо несла бутэрброды зь мясам, шпротамі, цытрынамі і ківі. Выпілі за юбіляра, за яго шэсьцьдзесят год. Закусілі. Потым пілі за жыцьцё, шчасьце, якое пралятае імкліва, як ластаўка ў небе.

Цёплае плячо Наталі, яе рука, жывая і хвалюючая, тугія формы вабнай паставы, усё гэта ўзбуджала і прыцягвала. Казік з асалодай падумаў, як ён сёньня павалтузіць гэтае шыкоўнае цела. Ён быў упэўнены, што павалтузіць, у яго было такое радаснае прадчуваньне. Ад таго што ён даўно ня меў практыкі зь незнаёмымі, чужымі жанчынамі, хваляваньне маладзіла і вяртала ў сінюю дымку юнацтва.

Непрыкметна ўзяўшы за цёплую, мяккую ручку Наталі, ён уявіў, як будзе цудоўна гэтую мілую, прыемную, гарадзкую, выхаваную, адукаваную жанчыну скарыстаць у трэцяй пазыцыі. Тут хваляваньне Казіка пачало хлястаць цераз край, і ён вярнуў сябе ў рэчаіснасьць.

Гамонка ішла аб жыцьці, аб палітыцы, прэзыдэнце, аб дарагоўлі. Сабраліся добрыя, прыемныя, адукаваныя інтэлігенты, якія на ўсё мелі сваё меркаваньне, свой востры крытычны позірк.

Алесь шчасьліва ўсьміхаўся, папраўляў гальштук, спрабаваў нешта сказаць і змаўкаў. Было дзіўна, дзе ён пасьпеў ужо так назюзюкацца. Вечарына, якая так сумна канчалася, зараз нечакана ўзбуяла і зайграла новымі нечаканымі фарбамі. Мужыкі-інжынэры Тодар і Язэп расказвалі анэкдоты. Жанчыны сакаталі ад сьмеху.

Казік зірнуў на стол, бутэрброды былі зьедзены. Гарэлкі заставалася на адхадную. Пачакаўшы хвіліну, Казік разьліў гарэлку па чарках і сказаў:

— Спадарства! Мілыя дамы і дарагія мужыкі! Ёсьць выдатны, сьвежы і аб'ядноўчы тост. Апошні і самы галоўны.

Усе ўзяліся за чаркі. Казік прыцішыў голас, таямніча і ўрачыста сказаў:

— Вып'ем, паважанае спадарства, за Беларусь. «Жыве Беларусь!»

Мужыкі весела ўскінулі чаркі. Жанчыны Ніна і Валя, Маша паднялі свае келіхі.

— Я ня п'ю за гэты тост, — прыгожая рука Наталі адсунула чарку.

— Ты што? — зьдзівіўся Казік.

— Ня п'ю, — Наталі неяк замбавана ўсьміхнулася і чаркі не ўзяла.

— Ну кінь, Наталі, не дуры, — Тодар падкрэслена акуратна выпіў сваю.

— Якая Беларусь, яе няма. Проста выдумка бальшавікоў. Чым Мінск адрозьніваецца ад Курску, Тулы, Саратава ці Новасібірска? Гэта ж несур'ёзна, — Наталі гаварыла, паблажліва ўсьміхаючыся, як аб нечым канчаткова вырашаным. — Расейская тэрыторыя, мае нейкія спэцыфічныя адрозьненьні, такіх у Расеі шмат.

Тодар махнуў рукой.

— Ды кінь ты, Наташ, я сам напалову беларус, у мяне маці беларуска. Па пашпарце я рускі. Беларусы — цудоўны народ. Памяркоўны.

— Кіньце вы глупствы гаварыць. Вы ж дарослыя людзі. Якая Беларусь? Проста сьмешна.

Наталі ўсьміхалася ўжо з адценьнем грэблівасьці.

Казік узлаваўся, выхаваны, вясёлы эўрапеец на вачах ператвараўся ў нешта халоднае, злоснае, непахісна-варожае. Страшныя, чорныя, абразьлівыя словы нараджаліся ў душы. Ах ты набрыдзь, ах ты б...б...блін. Жарэш наша сала, ліжаш наша масла, ...на дурніцу атрымала кватэру як сям'я адстаўнікоў, што прыехала з Улан-Удэ, а тыя, хто захліпаецца ад радыёактыўнага стронцыю і есьць радыёактыўны цэзій у Гомлі..., хочаце, каб і далей мы былі белымі мышамі для навуковых досьледаў...

Але Казік змоўчаў, перасіліў сябе, перацісную, перадушыў свой адчай, сваю злобу, тую пустку, што нараджалася ў душы, таго дракона, што злосна заварочаўся ў глыбіні яго.

Казік некалькі імгненьняў глядзеў на Наталі, шкадуючы аб тым, чаго ўжо ня будзе, аб трэцяй пазыцыі.

— Ну, што ж, — Казік падняўся, выхаваны мужны эўрапеец, падобны да сталёвага мяча, якім продкі-ліцьвіны змагаліся з тэўтонамі.

— Тады вып'ем за разьвітаньне з Марай. За тое, што ніколі ня будзе ў нас спатканьня з Парыжам, ніколі ня ўбачым акіянскай хвалі, ніколі не ўліемся раўнапраўнымі эўрапейцамі ў цывілізаваны заходні сьвет. Нам, ліцьвінам, наканаваны лёс халуёў, прыгонных істотаў, якіх некалі сагнулі, і ніяк мы не разагнемся. Лёс выканаўцаў чужых загадаў і жаданьняў, дзе мы павінны будзем гадаваць сьвіньняў, захліпацца ад радыяцыі дзеля таго, каб каланізатары спажывалі нашыя жыцьцёвыя прасторы, наша неба, наша сонца, нашу зямлю, нашых жанчын для сваіх, абавязкова Вялікіх, Патрэбаў.

Усе прысутныя вытрышчылі вочы і моўчкі пазіралі на Казіка. Наталі з спачуваньнем глядзела на яго. Потым сказала:

— Трызьненьне нейкае. Проста лухта.

Казік паставіў поўную чарку на стол. Ён страціў цікавасьць да гасьцей. Не было аніякай розьніцы паміж гэтым шыкоўным целам сьпелай самкі і тым мэтысам, у пашпарце якога было начыркана, што ён рускі. Абодва ня мелі Радзімы. Прыляпіўшыся да таго, што здавалася ім вялікім і моцным, яны хацелі ўратаваць сваё камфортнае, спакойнае і нікому не патрэбнае жыцьцё. Яны хацелі есьці, піць, удыхаць і выдыхаць, сэксавацца аж да самага біялягічнага канца. Прошлае іх не цікавіла, таксама як і будучае. Бо Гісторыя, як прошлая, так і будучая, патрабавала намаганьняў, інтэлекту, барацьбы, шматлікіх паразаў і рэдкіх перамогаў. Сапраўднае жыцьцё было сынусоідай, роўная лінія сьведчыла аб сьмерці.

Казік падняўся з-за стала і ветліва разьвітаўся.

У асяродзьдзі сьвежы, нарастаючы да моцнага вецер нёс адчайнае і маладое пачуцьцё свабоды. Неба ачысьцілася ад хмараў, і Зорны Шлях ледзьледзь праступаў у начным небе, прытушаны штучным гарадзкім сьвятлом.

Казік павольна ішоў начнымі вуліцамі Менску, і злосны дракон у ім сутаргава і магутна рваўся на волю. ■



# НАША НІВА 90 ГАДОЎ ТАМУ

*2 ліпеня 1909 году*

**М.Трабы**, Віл. губ. Ашмянскага пав. Пад час навальніцы, якая страшэнна бушавала ў нас у аўторак 16 юня і градам адбіла шмат дзе жыта, — у рэчцы, што пераразае гасьцінец з м. Суботнік да Траб, утапіўся, едучы тамтуды, Антось Мацееў Ашыйчык зь вёскі Дунаеў Івейскай вол. Мост тут, відаць, быў дрэнны, і намосьціны палажаны толькі для паказу, дык вадой іх пазнасіла, трэба было ехаць праз рэчку. Падарожны баяўся ехаць на вазе, пусьціў каня аднаго, а сам дай ісьці па кладцы, што нейкім трафункам трымалася, хоць саўсім у вадзе, недалёка мосту, але на няшчасьце пасьлізнуўся, зваліўся ў ваду і ўтапіўся. Конь жа з каламажкай перайшоў праз рэчку і затрымаўся на сенажаці. Людзі з блізкай вёскі ўгледзелі гэтага каня і прывялі ў паліцыю ў м. Трабы. А як пасьля вада апала, то і няшчаснага гаспадара дабылі з вады і 19 юня прывязьлі ў Трабы пад апекай паліцыі і да часу пахавалі на тутэйшых каталіцкіх могілках. А ўсё гэта ад таго, што няма ў нас земскага самаўпраўленьня, і мастамі і дарогамі займаецца такая старасьвецкая арганізацыя, як распарадзіцельны камітэт. Віленскі распарадзіцельны камітэт, напрыклад, прызапасіў да 1905 году больш за мільён рублёў дарожнага капіталу. Доўга ляжалі гэтыя грошы без карысьці, прыйшла японская вайна, і замест даць іх на дарогі і масты, — іх раздалі жонкам запасных.

*Пераезды.*

# ПІВА ЗА БЕЛАРУСЬ

Вось і насьпеў час віншаваць прыхільнікаў слабаалькагольнага напою са скончаньнем нашаніўскага піўнога чэмпіянату.

Турнірная табліца на фінішы выглядае наступным чынам:

| | |
|---|---|
| 1. Старажытнае (Менск) | 35 |
| 2. Портэр (Менск) | 33 |
| 3. Чорны Прынц (Ліда) | 27 |
| 4. Траецкае (Менск) | 23 |
| 5-7. Рэчыцкае | 21 |
| 5-7. Стары Замак (Ліда) | 21 |
| 5-7. Клясычнае (Ліда) | 21 |
| 8. Аліварыя (Менск) | 18 |
| 9. Граф Чапскі (Менск) | 16 |
| 10. Ракаўскі бровар (Менск) | 15 |
| 11-12. Кароль хмелю (Ліда) | 13 |
| 11-12. Князь Рагвалод (Пол-к) | 13 |
| 13. Барон Таўбэ (Берасьце) | 11 |
| 14. Леў (Менск) | 10 |
| 15. Чароўнае (Полацак) | 8 |

Найбрыдчэйшым півам зь вялікім адрывам ад астатніх прызнана «Жыгулёўскае», якое вырабляюць амаль усе беларускія піўзаводы.

За найтрапнейшыя лісты прызы атрымліваюць:

кнігу Славаміра Адамовіча «Плавільшчыкі расы» — **Уладзімер Аніськевіч** з Баранавічаў;

падпіску на «Нашу Ніву» на пяць апошніх месяцаў 1999 году — **Андрэй Роўбуць з Жодзіна;**

касэту «Беларускія маршы і песьні» — **А.Чайко** (Ліда);

кнігу Аляксандра Лукашука «У фіялетавай ночы вугал крыла» — **Анатоль Грыхуцік, Віталь Алісіёнак і Ўладзімер Брэк** (усе — Менск).

CD «Беларускія маршы і песьні» — **Альбэрт Смалонскі** зь Менску.

У разе, калі Вы не дасылалі сваіх адрасоў, просьба зьвярнуцца ў рэдакцыю. Да менскіх прызёраў таксама просьба зьвярнуцца ў рэдакцыю. Дзякуй вам, аматары беларускага піва! Цяпер мы маем нацыянальны піўны рэйтынг.

Бывайце здаровы!

**Андрэй Мельнікаў**

## Паштовая скрынка

**Андрэю Б.** з Масквы. Мы да Вашага Лужкова ні пры чым, не прыплятайце.

**Раману Р.** зь Севастопалю. За добрыя навіны зь Севастопалю дзякуй.

**Зьмітру Ю.** з Фаніпалю. Л.Крывічанін пісаў: «Ад сьпірытызму да сацыялізму адзін корх».

**Дзянісу Дз.** з Гомеля. Калі ў Вас грамадзкае аб'яднаньне, дык можна ўнесьці грошы на рахунак пад выглядам складак сяброў аб'яднаньня — паводле рашэньня Ўправы ці што ў Вас там у статуце. Гэта выгадна, бо са складак падаткаў не бяруць. Можна таксама перасылаць на рахунак звычайным паштовым перакязам як ахвяраваньні з адпаведнай пазнакай, але тут марокі шмат, бо па правілах за раз нельга многа перасылаць. Таксама фінансавых кампаніяў поўная хата, якія абезнаўліваюць даляры-гатоўку, але гэта крымінал.

**Аляксандру П.** з Горадні. Мы кажам «вецер», але «няма ветру». Гэтаксама «Зьміцер», але «Зьмітра няма», «Зьмітру», «Зьмітраў парасон», «зьмітраўскія дзяды». Апошнім часам прынялі пісаць «у Беларусі» і «ва Ўкраіне», а не «на». Пра гэта «НН» ужо даўней пісала.

†

Смуткуем з нагоды трагічнай гібелі **МІХАСЯ СІДАРЭНКІ**, сьціплага і добрасумленнага чалавека, в.а. кіраўніка Аршанскага БНФ. Сьпі спакойна.

*КАЦІК, Мельнікаў, Пушкіны, Аляхновічы.*

## Прыватныя абвесткі

Віншуем Віталіка з днём народзінаў. Зычым здароўя, шчасьця, посьпехаў у спорце й вучобе. І каб хутчэй знайшоў сваю любоў. Андрэй і Алёна

Пятро Васільевіч, віншую Вас з надыходзячым сьвятам — з днём нараджэньня. Валера Бацяноўскі

Відэафільм «Пяты элемэнт». Продаж, запіс: 1) Шапік «Карона» (скрыжаваньне Сурганава-Коласа); 2) 220107, а/с 150; тэл. (017) 240-78-01, Віталь

Запрашаю ў Польшчу за аўта, а таксама аўта на замову. Ігар Саракавік, г.Пінск, 8(01653) 6-36-65

Хлопец (23), в/а шукае сябра-мужчыну, адукаванага, які можа дапамагчы ўладкавацца на працу. Я – бісэксуал. Адкажу ўсім. 220073, г.Менск-73, а/я 187

Мяняю 2-пак. кватэру у Смаленску на 1-пак. у Менску. 210021, Віцебск-21, а/с 21, Сьвятлане

Мяняю 1-пак. новую кватэру ў Віцебску на кватэру ў Менску, Маскве, Пецярбургу. 210001, Віцебск-1, а/с 39, Алене

Куплю слоўнікі Насовіча і Станкевіча, беларускую Біблію. Тэл.: 2-264-263

Жыві ў сваёй Рэспубліцы! Чытай сваю газэту! «Радавая Беларусь» — выданьне ўраду БНР — салідная газэта. Дашлеце капэрту з маркаю й купон б/а — і атрымаеце апошнія нумары. А/с 169, 220030, Менск

Газэта «Наша ніва ісьцінная» друкуе графаманаў ад Бога. Пішэце да нас і чытайце нас! «Наша ніва ісьцінная» — гэта наша й ваша ніша. Дашлеце капэрту й купон б/а. А/с 169, 220030, Менск

Прапануем в/а працу ў хаце (250 у.а.). Гэта Вы можаце! Ад Вас 2 кап. са зв/а + купон б/а. 220089, Менск, а/с 122

Прадавалася Радзіма. Даражэй прадаваліся правы на ўладу, таньней — вера, і зусім танна — чыстая, як золата, беларуская мова. Уладзімер Караткевіч

**Мы друкуем таксама абвесткі большым шрыфтам і ў афармленым выглядзе, але за невялікую плату:**

*— да 20 словаў — 40 000 руб., звыш 20 словаў — 60 000 руб.;*

*— па-мастацку афармленая аб'ява (мінімальны памер рэклямнага модулю 18 кв. см) — 180 000 руб.;*

*— па-мастацку афармленая аб'ява памерам больш за 24 кв. см з улікам кошту арыгінал-макету — ад 25 000 руб. за 1 кв. см.*

*За аб'яву пра сямейныя падзеі — зьніжка.*

Каб замовіць платную прыватную абвестку, трэба пералічыць грошы праз пошту пераводам на наступны разліковы рахунак: *Рэдакцыя газэты «Наша Ніва», р/р 3012213050010 Ленінскае аддз. «Белбізнэсбанку» г.Менску, код 763.*

На зваротным баку блянка паштовага пераводу ў сэктары «Для пісьмовых паведамленьняў» запісваецца дакладна і чытэльна тэкст абвесткі, тэлефон для сувязі і АБАВЯЗКОВА ДАДАЕЦЦА СКАЗ: «ЗА РЭКЛЯМНЫЯ ПАСЛУГІ».

*Рэдакцыя*

**КУПОН** БЯСПЛАТНЫЯ ПРЫВАТНЫЯ АБВЕСТКІ

Запоўніце гэты купон, і мы надрукуем Вашу абвестку (ня больш за 15 словаў) бясплатна. 220050, Менск, а/с 537

Тэкст ____________________

____________________

*Імя і прозьвішча* ____________________

*Адрас, тэлефон* ____________________



«Наша Ніва» незалежная газэта, заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991. Галоўны рэдактар Сяргей Дубавец. Рэдактар выпуску Андрэй Дынько. Мастацкі рэдактар Сяргей Харэўскі. Адказны сакратар Аляксандра Макавік. Дызайн-макет Лявон Раманчык. Набор Насты Дзядзенка. Выдавец: рэдакцыя газэты «Наша Ніва». Заснавальнік Павал Жук. Адрас для дапісаў: 220050 Менск а/с 537. Tel/fax (017) 227-78-92 E-mail: niva@user.unibel.by http://members.xoom.com/Nasa_Niva.

 Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. Наклад 2830. 6 палос фарматам А2. Нумар падпісаны ў друк 18[05], 4.07.1999. Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Менск, праспэкт Францішка Скарыны, 79. Замова N3319

Кошт свабодны.

Пасьведчаньне аб рэгістрацыі перыядычнага выданьня N 581 ад 4-га ліпеня 1996 г., выдадзенае Дзяржаўным камітэтам па друку Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: г. Менск, пр. газэты «Известия», д. 8, кв. 173.

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12